# Наступ савецкай рэакцыі

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

вязяў між камуністычнымі партыямі, у адмаўляньні вядучай ролі камуністычнай партыі СССР і Савецкага Саюзу наагул, у супастаўляньні савецкага сацыялізму й Савецкага Саюзу з рабаўнічай сыстэмай імпэрыялізму й проста «ваеннымі блёкамі», у чым асабліва адрозьніўся югаслаўскі рэвізіянізм.

У пытаньні збудаваньня камунізму ў СССР сэсіі прыйшлі да вываду, што ў СССР сацыялізм фактычна ўжо збудаваны й савецкае грамадзтва стаіць на шляху пабудовы камунізму. Пра гэта сьветчаць у першую чаргу пастановы XX зьезду КПСС і наступных сэсіяў партыі, рэарганізацыя МТС і перадача ягонага майна калгасам, забавязаньні савецкага грамадзтва дагнаць і перагнаць Амэрыку ў вытворчасьці спажывецкай і індустрыяльнай прадукцыі на душу насельніцтва, разшырэньне правоў саюзных рэспублік і разьвязаньне нацыянальнага пытаньня, устанаўленьне нормаў партыйнага дэмакратычнага цэнтралізму, узгадаваньне савецкага чалавека ідэйна й маральна блізкім камунару, запуск у прастору «спутнікаў» зямлі, наяўнасьць прадумоваў да ліквідацыі розьніцы між разумовай і фізычнай працай шляхам культурна-тэхнічнага ўзгадаваньня грамадзтва й г. д. Застаецца толькі ўсё гэта абаснаваць і абагульніць тэарэтычна, пры гэтым трымаючыся марксістоўска-ленінскай мэтадалёгіі й ленінскага прынцыпу партыйнасьці навукі. Гэта будзе найлепшым адказам рэвізіяністым і найбольш эфэктоўнай барацьбой з усякімі праявамі рэвізіянізму й буржуазнай рэакцыяй.

Нас тут цікавяць некаторыя пытаньні, зьвязаныя з гэтай савецкай хвальбой і наступам супраць «рэвізіянізму».

Першае, маючы такія вялікія пэрспэктывы на будучыню, нязломную волю савецкіх людзей збудаваць камунізм, пры гэтым людзей, маральна й ідэйна прыгатаваных да ўспрыняцьця камунізму, адкрытыя непарушныя ягоныя законы, якімі кіруецца партыя у сваіх дзеях, неадмоўныя факты зрэалізаваньня сацыялізму, — партыя усьцяж дрыжыць за развал свайго камуністычнага будаўніцтва ад найменшага павеву «рэвізіянізму» ці першага сказанага слова замежнай «капіталістычнай акулы». Тут штосьці не ў парадку: або камунізм недаступны да ўспрыняцьця чалавечым розумам і патрабуе стагодзьдзі, каб зьліцца з гэтым чалавекам, або ён запраўды натолькі кволы, як былінка, што хістаецца ад найменшага ветру. Нам здаецца, што прынамся савецкі камунізм прыпадабаецца да апошняй, на якой муху падмяняе камуністычная партыя Савецкага Саюзу.

Другое, абвінавачваючы пошукі камуністых заходняй дэмакратыі й краінаў так званай «народнай дэмакратыі» прыстасаваць марксістоўскія ідэі, калі іх наагул можна прыстасаваць, да бегу й праблемаў жыцьця, як адыход ад марксізму-ленінізму, пераход у лягер «буржуазнага» нацыяналізму, камуністычная партыя Савецкага Саюзу чамусьці не параўноўвае свае падобныя адхіленьні ды называе сваю таксама адвольную палітыку й практыку — «творчым разьвіцьцём марксізму-ленінізму». У такім выпадку трэба ўважаць, што так званы марксізм-ленінізм наагул ня мае ніякіх рамкаў і ня можа служыць крытэрыям для ацэны тых ці іншых адхіленьняў.

Трэйцяе, акрэсьліваючы незалежніцкія імкненьні іншых народаў «сацыялістычнай здрадай», «конррэвалюцыяй», «буржуазным нацыяналізмам», партыя Савецкага Саюзу прысабечвае сабе й толькі сабе права распараджацца жыцьцямі гэтых народаў. Пад выглядам сцэмантаваньня «сацыялістычнага лягеру», зьдзейсьненьня «сацыялістычных» мараў народаў, яна зацягвае іх у сваю сфэру выкарыстаньня, прымушаючы іх адначасна не здавацца ні адным словам. Вось чаму камуністычнай партыі Савецкага Саюзу асабліва не падабаюцца пагляды югаслаўскіх камуністых на СССР, як на краіну імпэрыялістычнага характару, а на так званы сацыялістычны лягер — як на звычайны ваенны блёк, пастаўлены супраць Захаду.

Чацьвертае, выхваляючы сваю рэстаўрацыю прававых нормаў жыцьця савецкага грамадзтва й партыйнага актыву, творчай свабоды й думкі, савецкая камуністычная партыя чамусьці зноў і зноў зьвяртаецца да славутых часоў сталінскага духовага й фізычнага тэрору, пра што сьветчаць, між іншым, устаноўлены ленінскі прынцып партыйнасьці ў думках і творчасьці, абарона сталінскай культурнай, літаратурнай і навуковай спадчыны ды пагроза зьнішчыць так званы «нацыянал-камунізм», «буржуазны нацыяналізм», «рэвізіяністычныя тэорыйкі», а таксама адхіліць ад партыі й ад працоўнага руху «няўстойлівыя» элемэнты — інтэлігенцыю й сялянска-рамесьніцкія масы. Гэтая пагроза, кінутая ў адрас апошніх, пацягвае, ведама, іхняе масавае выключэньне з партыі й недапушчаньне туды.

Нарэшце пятае й самае важнае. Савецкае грамадзтва йдзе да камунізму. З узгляду на гэта партыя пачынае думаць аб культурна-тэхнічным узгадаваньні гэтага грамадзтва й аб ліквідацыі розьніцы між разумовай і фізычнай працай. У дадзеным кірунку ўжо ёсьць пэўныя «дасягненьні», як, напрыклад, недапушчаньне асноўнай масы моладзі да вышэйшых студыяў, а таксама назначаная рэформа сярэдніх агульнаадукацыйных школаў у школы тэхнічна-прафэсіянальнага ўзгадаваньня.

Нам думаецца, што, каб падняць культурна-тэхнічны ўзровень грамадзтва, зьліквідаваць розьніцу між разумовай і фізычнай працай, і адначасна пакінуць гэтае грамадзтва інтэлектуальна здольным для зарганізаваньня ўсебаковага жыцьцёвага разьвіцьця й не закрануць прафэсіянальнай псыхікі й матарыяльнай зацікаўленасьці чалавека — сябры падобнага грамадзтва, трэба ўсётакі пачынаць ад выхаваньня дадзенага грамадзтва ў дасягненьнях сучаснае навукі й тэхнікі, у прывіцьці ўсеагульнага вышэйшага навучаньня. Прынамся гэта патрабуецца на дадзеным этапе, калі яшчэ ня звальваецца камуністычны дабрабыт зь неба. Камуністычная-ж партыя Савецкага Саюзу хоча зрабіць падобную апэрацыю з адваротнага боку.

Ведама, дэкрэты тут нічога не памогуць, але вытварыцца сытуацыя акрэсьленай чарнаработніцкай клясы з аднаго боку, і палітычна-духовага авангарду — з другога, — бо ўсё-ж-такі трэба будзе забясьпечваць ня толькі матар'яльным дабрабытам, але й падтрымоўваць жыцьцёва-духовы стан грамадзтва. Вельмі сумлеўнае пытаньне, ці падзеляцца сваім куском зарабляннага хлеба другія зь першымі. У гэта ня верыць, між іншым, і віцэ-прэзыдэнт Акадэміі навук СССР акадэмік К. Астравіцянаў, зазначаючы, што ня можна падыйсьці да «ўраўнілаўкі», бо й пасьля пабудовы камунізму прынцып распадзелу патрэбнасьцяў і зацікаўленьні людзей застануцца рознымі.

Восьжа, тут не дапаможа й тэарэтычнае абаснаваньне збудаваньня камунізму, але затое партыя выгадуе сабе армію беласкурых рабоў, якім уступ у партыю, як выглядае, а гэтым самым і ў вышэйшую кіраўнічую сфэру будзе строга забаронены.

**П. З.**

# Савецкія інтрыгі вакол македонскага пытаньня

У заходня-эўрапэйскай прэсе апошнімі часамі зьявіліся весткі аб савецкіх супрацьцітаўскіх інтрыгах на Балканах, ці, дакладней кажучы, навокал г. зв. македонскага пытаньня. Пытаньне гэтае ўжо ня першы раз становіцца косткай нязгоды між балканскімі народамі, зь якіх кажны стараецца яго выкарыстаць у форме палітычнага козыру супраць свайго праціўніка. Цяпер-жа гэтым козырам апэруе Масква за пасярэдніцтвам Баўгарыі.

Што становіць сабой македонскае пытаньне?

Македонія знаходзіцца ў цэнтральнай частцы Балканаў і абыймае паўдзённа-ўсходнюю частку Югаславіі (Вардарская Македонія), паўночна-ўсходнюю частку Грэцыі (Эгэйская Македонія) і паўдзённа-заходнюю частку Баўгарыі (Пірынская Македонія). Македонцы належаць да групы паўдзённых Славянаў; мова іх, на якой гутарыць каля 1,5 мільёна чалавек, зблiжана да мовы баўгарскай.

Маючы слаўнае гістарычнае мінулае, потым пераўжыўшы стагодзьдзі турэцкае няволі, незалежнасьці Македонцы не здабылі, а іх краіна, як у канцы мінулага стагодзьдзя, так і на працягу нашага стагодзьдзя была й прычынай і полем змаганьня між суседнімі дзяржавамі.

Яшчэ ў часе турэцка-расейскае вайны ў 1877 г. Баўгары прабуюць захапіць усю Македонію, аднак у выніку Бэрлінскага кангрэсу ў 1878 г. яна трапляе зноў пад уладу Турцыі. У 1912 г у часе першае Балканскае вайны Баўгары зноў займаюць тэрыторыю Македоніі, аднак у выніку мірнае ўмовы ў Букарэшце ў 1913 г. тэрыторыя Македоніі разьдзяляецца між Грэкамі й Сэрбамі, а невялікая частка — Пірынскі край — дастаецца Баўгарыі.

Падчас I Сусьветнае вайны баўгарская армія яшчэ раз займае тэрыторыю Македоніі, якую аднак траціць у 1919 г.

Падобная-ж гісторыя паўтарылася і ў вапошняй вайне, з тэй толькі розьніцай, што гэтым разам у йгру быў уступіў новы фактар — камунізм. У 1943 г. на загад Масквы прадстаўнікі камуністычных партыяў Югаславіі, Баўгарыі й Македоніі падпісалі ўмову аб стварэньні Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік на Балканах (СССРБ), у які-б уваходзілі ў якасьці фэдэральных рэспублік Баўгарыя, Сэрбія, Грэцыя й задзіночаная Македонія. Але ўжо 22 сьнежня 1944 г. югаслаўскі ўрад перадае Баўгарыі мэмарандум, у якім ужо гаворыцца аб Паўдзённа-Славянскай Фэдэрацыі, у якую-б увайшлі апрача 6-ці югаслаўскіх рэспублік (Сэрбія, Харвацыя, Славэнія, Босьнія-Гэрцэгавіна, Чарнагорыя й Македонія) таксама й Баўгарыя, як 7-ая рэспубліка. Баўгарыя палічыла за дэградацыю для сябе стацца зь незалежнай дзяржавы складовай рэспублікай югаслаўскае, фактычна, фэдэрацыі, тым больш, што ў гэтай апошняй была-б небясьпека сэрбскае перавагі. Таму Баўгарыя й высунула праект фэдэрацыі незалежных рэспублік Югаславіі, Баўгарыі й задзіночанай Македоніі. Тымчасам амаль палова тэрыторыі гэтае апошняе знаходзілася пад Грэцыяй. Невядома якія-б шансы меў-бы гэты праект, калі-б у Грэцыі перамаглі камуністыя і, такім чынам, уся македонская тэрыторыя апынулася пад камуністычнай уладай. Але, як вядома, камуністыя былі змушаны ў Грэцыі скапітуляваць, а падругое, калі-б і ня гэта, то ўсядно выглядае, што Югаславія на гэты праект не пайшла-б.

Такім чынам справа задзіночаньня Македоніі спынілася на мёртвым пункце.

Цяперашняе палажэньне Македоніі ў шмат чым нагадвае палажэньне Беларусі пасьля Рыскага трактату. Частка яе належыць да Грэцыі, частка да Баўгарыі, а частка ўваходзіць у склад югаслаўскай фэдэрацыі, як адна з рэспублік.

Зразумела, што пры такім палажэньні дастаткова найменшага напружаньня між гэтымі суседнімі дзяржавамі, каб македонскае пытаньне сталася зноў козырам і зброяй у руках праціўнікаў. Пакуль тытаўская Югаславія ўваходзіла ў савецкі блёк, на гэтым адрэзку было спакойна, а навет вяліся перамовы між Югаславіяй і Баўгарыяй (што вельмі не падабалася Сталіну) адносна паступовых, спачатку толькі культурных, сувязяў між Македонцамі Югаславіі й Македонцамі Баўгарыі.

Палажэньне рэзка зьмянілася ў 1948 годзе, калі Ціта высьлізнуўся з савецкага блёку. Спыніліся гутаркі пра задзіночаньне Македоніі, а македонская справа была адкладзена ўбок, як запасевая зброя на выпадак больш войстрага канфлікту.

Па ўсім выглядае, што пасьля сёлетняй няўдалай спробы паразуменьня між Югаславіяй і Савецкім Саюзам, Масква пачынае паступова патрасаць гэтай зброяй, каб шантажаваць свайго праціўніка. Бязумоўна сама Масква тут быццам не ангажуецца, робіць гэта за яе Баўгарыя, але гэта не мяняе сутнасьці справы. Баўгарская прэса й радыё сыстэматычна цяпер вядуць прапагандовую кампанію супраць Югаславіі, дамагаючыся далучэньня да Баўгарыі югаслаўскае Македоніі. Гэтая прапаганда апісвае жахлівае палажэньне паняволеных Югаславіяй «македонскіх Баўгараў» (так цяпер Баўгары называюць Македонцаў пад Югаславіяй). Наагул баўгарскія палітычныя й прапагандовыя дзейнікі пачалі даводзіць, што ніякага апрычонага македонскага народу няма, што гэта толькі інтрыга Сэрбаў, каб панявольваць частку баўгарскага народу. А ўсё зводзіцца да аднаго: далучыць югаслаўскую Македонію да Баўгарыі.

Як падае нямецкая газэта «Rheinischer Merkur» у ваднэй з карэспандэнцыяў зь Белграду, там дайшлі весткі, што ў баўгарскай частцы Македоніі праходзіць цяпер адмысловае вышкаленьне 240 афіцэраў і жаўнераў македонскага паходжаньня, якія апошнімі гадамі ўцяклі сюды зь югаслаўскае арміі. Іхнае заданьне — зарганізаваць паўстанскі рух у югаслаўскай Македоніі ды далучыць яе да Баўгарыі. У дадзеным выпадку імкненьні Баўгарыі й СССР вельмі цесна з сабой супадаюць. Далучэньне югаслаўскае Македоніі да Баўгарыі — гэта даўняя й вечна жывая мроя гэтае апошняе, для Савецкага-ж Саюзу — гэта аслабленьне цітаўскай Югаславіі ды беспасярэдні сухаземны доступ да камуністычнае Альбаніі.

Але, як кажуць, палка мае два канцы. Таксама й македонскае пытаньне. Справа ў тым, што Ціта ў сваю чаргу таксама хоча выкарыстаць македонскае пытаньне якраз супраць Баўгарыі. I вось югаслаўскі ўрад даручыў Сэрбскай Праваслаўнай Царкве зарганізаваць незалежную Македонскую Царкву. А што такая царква будзе прыцягальным пунктам для Македонцаў, што жывуць пад Баўгарыяй — няма ніякага сумлеву.

Балканы ў навейшай гісторыі заўсёды былі лёгказапальным пунктам войстрых канфліктаў. У што могуць пераварыцца інтрыгі навокал македонскага пытаньня — цяжка прадугледзіць, хоць зьяўляецца пэўным тое, што ўсё будзе найбольш залежыць ад далейшых крокаў Масквы, якая ўвесь час спэцыялізуецца ў ігры на нацыянальных пачуцьцях і выкарыстоўваньні іх для сваіх мэтаў.

**А. Г.**

**ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ НА ЧУЖЫНЕ — ГЭТА ПАКАЗЬНІК НАШАЕ ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЯЗДОЛЬНАСЬЦІ Й ДАКУМЭНТАВАНЬНЕ НАШАЕ ПРАЦЫ. ТАМУ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАЕ ГРАМАДЗКАЕ ПАДЗЕІ, ЯКАЯ-Б НЯ БЫЛА АДЦЕМЛЕНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ. ПІШЭЦЕ Ў «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**

ла, усё-ж часамі ня выконваў суровыя загады, — не хадзіў пілаваць дровы старшынёвай жонцы. Гэта трошкі падбадзёрвала, аднак не збаўляла душэўнай крыўды й болю. Хлопец блукаў па сваім садку, мераў глыбокі сьнег, і сам добра ня ведаў, для чаго. Адсюль добра быў відаць новы дом Шулава, жоўты, нібы з воску. Каля ганку ўзвышаўся стос цынкавых начовак. Гэта старшыня калгасу будзе перакрываць сваю будыніну: здыме звычайную бляху й пакладзе цынкавую. Колькі каштавалі калгасу гэтыя начоўкі?

Раптам Івана пацягнула выйсьці на вуліцу, знайсьці ў Дабрасельцах Шулава і ў вочы задаць яму пытаньне. Але каля варот зноў паказалася заечая шапка Затклы, і хлопец спыніўся. Не хацелася яму сустракацца з гэтым чалавекам. Угледзіць, прывяжацца, і не адчэпішся ад яго да вечару. Калі няма ніякіх навін, то будзе расказваць сваю, на яго погляд вельмі нязвычайную біяграфію: колькі разоў дзе быў і колькі разоў яго адтуль выганялі, колькі разоў жаніўся й чаму цяпер няма ні жонкі, ні дзяцей, а толькі старая цёшча стогне на печы.

«Няхай шукае Мокрута, — падумаў Іван. — Той можа паслухаць ягоную біяграфію».

Іван вярнуўся ў садок, успомніў, што трэба агледзець прышчэпкі, можа, абвязаць іх лепш, каб не пагрызьлі зайцы. Агледзець, ды хутчэй да Ільлі Савіча, а то Даша, пэўна, не дачакаецца, пабяжыць адна. Можа так выйсьці, што й Андрэіха пойдзе зь ёй.

Пад старой бэрай стаіць вулей-калода. Ледзь не да палавіны ён занесены сьнегам. Хлопец спыняецца перад гэтым вульлём, нечакана для сябе задае пытаньне, ёсьць тут цяпер пчолы, ці не? Можа адсыпаліся ад марозу? Ён становіцца ў сьнег каленямі, прыкладае вуха да заткнутага саломаю лятка. Нічога, зразумела, не пачуеш зімой, але яму здаецца, што пчолы бесьперапынна варушацца, грэюць адна адну. Успомнілася, як некалі нябожчык-бацька вось гэтак-жа станавіўся перад гэтым вульлём на калені, толькі ня зімою, а ўлетку, калі трэба было падглядаць пчол. Ён кажны раз вельмі старанна ўмываўся перад гэтым, надзяваў чыстую сарочку й быў заўсёды такі вясёлы, што радасна было глядзець на яго. Іван наглядаў за бацькавай работай здалёк, бо падыйсьці баяўся: маглі пчолы ўджаліць. Зь першай падрэзкі бацька прыносіў яму сьветлы квадрацік сьвежага пахучага мёду. Хлопчык браў яго ў губы, і здавалася, што ўсё навокал пачынала сьпяваць, а сонца над бэрай іскрылася золатам.

Над бэрай і цяпер стаяла сонца.

## XII

У малых гадох Васіль Печка быў слабаваты здароўем, хоць і вяртлявы, непаседлівы. Ня надта вылюднеў і падросшы, таму не пайшоў далей вучыцца пасьля дзесяцігодкі й ня быў прызваны ў армію. Лявон Мокрут, як чалавек з пэўным вокам на патрэбных яму людзей, заўважыў у хлопцу перш за ўсё сьхільнасьць выконваць усё, што яму ні скажаш, затым — стараннасьць у рабоце, найлепшы почырк і іншыя, вядома, адметныя якасьці. І запраўды, Васіль працаваў самааддана. Кажны дзень ён пехатою абходжваў паўсельсавету, быў у Мокрута ня толькі сакратаром, а й кур'ерам, выканаўцам розных асабістых даручэньняў. У вапошнія часы хлапец асабліва многа бегаў па вёсках, па пасёлках, падганяў розныя справы, згладжаваў тое, што было ня зусім гладкім, бо набліжалася такая сэсія, дзе Мокруту трэба было рабіць справаздачу. Сама сэсія то яшчэ нічога, Мокрут разьлічваў правясьці яе гладка. Але на гэтую сэсію можа, як гром зь неба, зваліцца раённае начальства, дык тут ужо трэба паварушыцца. Васіль туды, Васіль сюды! Печка, зрабі опісь, Печка, зрабі па «сто» грамаў! Сакратару бегатні няма ведама колькі, а тут яшчэ й выпіць даводзіцца амаль што кажны дзень. Іншы раз Васіль і рад быў-бы адмовіцца ад гэтай выпіўкі, або ўзяць толькі для прыліку, ня поўную мерку. Але-ж што скажа на гэта Мокрут? Каму-ж гэта хочацца паказваць сябе нейкім блазьнюком? Да таго-ж, і звычка ўжо ўбіралася ў сілу.

Так падкасіліся ў хлапца й тыя сілы, што былі. Для здаровага лайдака, ды яшчэ не цьвярозага, нічога ня значылі-б тыя вельмі спагадлівыя штуршкі, якімі надзялілі Васіля хлопцы ў тую недарэчную ноч. Не пашкодзіў-бы таму лайдаку й ня надта доўгі адпачынак у сьнезе. А вось сакратару Чырвонамакаўскага сельсавету ўсё гэта вельмі пашкодзіла. Трохі яго штурхнулі, трохі паляжаў, разагрэўшыся ў сьнезе, пакуль хлопцы прывязьлі сані, галоўнае-ж — ператросься чалавек, перапаліў нэрвы й не ўстаяў пасьля гэтага, захварэў.

Даша кажны дзень прапытвала пра Васіля, амаль кажны дзень намервалася йсьці да Печкаў у хату, але ўсё неяк адкладала, хоць зь цяжкім болем у душы. Ня лёгка было рашыцца на такое наведваньне. Ніколі ў сваім жыцьці яна ня была ў Печкаў, ніколі блізка ня сустракалася із старой Аксіньняй, Васілёвай маткай, а толькі чула, што жанчына гэтая крутога нораву, вельмі вострая на язык і ня раз прабірала Валодзю за тое, што абмінуў і сваіх, і гарадзкіх дзевак ды зьнюхаўся вунь зь нейкай цялятніцай.

Крыўдна было ўспамінаць і думаць пра гэта, але ўсё-ж такі дзеля справядлівасьці, дзеля запраўднасьці чалавечай дружбы дзяўчына адважылася пайсьці ў Чырвоныя макі. Выйшла аднаго дня вельмі рана, адразу пасьля таго, як з большага ўправілася на фэрме. У Чырвоных маках яшчэ толькі дымы валілі з каміноў і вучні беглі ў школу, калі яна падыходзіла да Печкавага двара. Ужо з вуліцы заўважыла, што Аксіньні няма дома: дзьверы ў сенцы зашчэплены й з двара пайшоў сьвежы сьлед. Спачатку хацела вярнуцца, а потым выпадкова глянула на комін і ўбачыла, што адтуль яшчэ цэдзіцца рэдкі дымок. «Юшка не зачынена, — падумала Даша, значыць гаспадыня недзе каля дому».

Запраўды, неўзабаве Аксіньня выйшла з чужога двара і, асьцярожна ступаючы па коўзкай сьцежцы, накіравалася да сваёй хаты. У руках яе былі два вялікіх вядры, да самых берагоў напоўненыя вадою.

Дзяўчына пайшла ёй насустрач.

— Дайце я вам памагу, цётка, — весела сказала яна й працягнула руку да почапкі аднаго вядра.

— Ня трэба . . . я сама, — пераводзячы паміж словамі дух, загаварыла жанчына. — Гэта-ж . . . калодзеж замёрз . . . у тыя маразы . . . што былі . . . Ды й сьнегам занясло . . . А пачысьціць няма каму . . . Адна засталася . . .

I толькі цяпер яна на нейкі момант адарвала свой позірк ад сьцежкі й агледзела Дашу.

— А вы чые-ж гэта будзеце? — прыязна спытала яна. — Нешта не пазнаю.

— Ды я не адсюль, — пачынаючы трывожыцца, адказала Даша. — Я з Дабрасельцаў.

— З Дабрасельцаў? — нібы ня верачы, перапытала жанчына. — А чыя-ж усё-такі?

— Мітрафанава, — адчуваючы, што набліжаецца цяжкая хвіліна, сказала Даша. — Я прыйшла праведаць вашага Васіля.

Аксіньня паставіла вёдры на сьнег, спачатку глыбока ўдыхнула ў сябе паветра, а потым, нібы шуфлем, сыпанула на Дашу мноства няпрыемных і крыўдных слоў:

# Літаратурны Дадатак

## *Уладзімер Дубоўка*

Менскі часапіс «Бярозка», друкуючы ў сваім 10 нумары за кастрычнік 1958 году вершаваную «усходнюю казку» Уладзімера Дубоўкі «Пра дзяўчыну і кілім», зьмясьціў характэрны й вельмі вымоўны фотоздымак паэты, які тут рэпрадукуем, а так-жа наступную зацемку:



**Уладзімер Мікалаевіч Дубоўка нарадзіўся ў 1900 годзе ў вёсцы Агароднікі Маладэчанскай вобласьці.**

**З 1915 году жыў і працаваў у Маскве. У 1925 годзе скончыў Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя Брусава й працаваў адказным рэдактарам першага дзіцячага часапісу ў нашай рэспубліцы — «Беларускі піянер».**

**Літаратурную дзейнасьць Дубоўка пачаў у 1923 годзе. Ён выдаў зборнікі вершаў «Строма», «Трысьцё», «Крэдо», «Наля», надрукаваў некалькі паэм і перакладаў з твораў клясыкаў зарубежных літаратур.**

**У вапошні час у друку зьявіліся новыя паэтычныя творы Ул. Дубоўкі, падрыхтавана кніга выбраных твораў і зборнік апрацаваных ім народных казак.»**

Падаючы гэтую вельмі-ж скупую зацемку аб паэце й пералічаючы далёка ня ўсе й не найважнейшыя выданьні ягоных твораў, рэдакцыя «Бярозкі», пэўне-ж, ня прыпадкова забылася прывесьці магчыма найважнейшага факту з жыцьця паэты, паймена таго, што ён, як і вялізарная колькасьць ягоных сучасьнікаў, у 1930 годзе быў абвінавачаны у беларускім нацыянал-дэмакратызьме й высланы. Пасьля гэтага Дубоўка быў поўнасьцяй вычыркнуты зь беларускай літаратуры й аб ім не ўспаміналася ня толькі добрым, але навет і благім словам. І толькі ў мінулым 1957 годзе Дубоўка быў «рэгабілітаваны», а новыя ягоныя творы пачалі час ад часу друкавацца на бачынах беларускіх літаратурных часапісаў.

## ПРА ГАНАРЫСТАГА КАНЯ

**Індыйская казка**

1

Ваяка меў цудоўнага каня,
на тым кані ён вецер абганяў.
Сядло ўсё пазалочана на ім,
вуздэчка ўся ў зіхценьні залатым.
Імкнецца ў далі той цудоўны конь,
спад капытоў аж пырскае агонь.
Віецца пыл за ім і панад ім,
конь ганарыцца вершнікам сваім.
Насустрач ледзьве цягнецца ішак,
на ім няма і залатых адзнак.
Худы, ў дадатак стомлены такі —
як і наогул пад цяжарам ішакі.
Маленькі сам, — вялікі цягне пак
цярплівы той і стомлены ішак.
Пагрозна конь вачыма заблішчэў:
— «Дарогу мне загарадзіў яшчэ!
А ну — на бок, а не — пазнаеш ты,
якія моцныя я маю капыты!»
Намуляў плечы ішаковы пак.
Стаміўся, далей некуды, ішак.
Ды што рабіць? — Здратуе гэты конь,
што капытамі аж сячэ агонь.
І пацягнуўся ён з дарогі ў бок,
як толькі мог, і пак свой павалок, —
Худы такі, і стомлены такі,
як і наогул пад цяжарам ішакі.
А конь прамчаўся у шырокі сьвет,
а пыл, узьняты ім, закрыў і сьлед...

2

У бойцы ранілі таго каня...
Ён капытамі не сячэ агня...
Ад ветру ззаду застаецца ён,
за ветрам больш ня бегае ўздагон.
Хоць гаспадар і уздыхнуў па ім,
ды зьняў сядло з уборам залатым.
З насечкай залатой вуздэчку зьняў,
аброць узьдзеў ён на таго каня.
Пасьля узяў яго за павадок,
правёў на баз, правёў на конскі торг.
Прадаў каня, бо ранены быў конь,
спад капытоў ня пырскае агонь.
Купіў яго там неякі фурман,
сядла ў яго, у фурмана, няма.
Цяжары возіць ён на тым кані.
Цяжкія для каня насталі дні...

3

І дзень па дні, і дня не прамінае,
вялікія два пакі на сьпіне
Конь возіць, возіць — і канца няма:
адны здымай, другія падымай...
Аднойчы так ён з пакамі ідзе,
ды адпачынку ня відаць нідзе.
Насустрач і натрапіўся ішак,
які калісьці вёз таксама пак.
Ішак пазнаў даўнейшага каня
і гутарку такую зь ім узьняў:
— «А, конь-сахіб! Салем алейкум вам!
Чаму панікла ваша галава?
Як вам паводзіцца? Ты-ж быў як леў,
мяне яшчэ ты дратаваць хацеў!
Я і падумаў: п'яны та дарма!
На сьвеце хмелю вечнага няма!
Ад гордасьці працьверазішся ты!
А дзе-ж, скажы, убор твой залаты?»

4

Пашкадаваў каня усё-ж ішак:
— «Давай мне, кажа, твой вялікі пак.
Іду я ўлегцы. Памагу табе.
Я думаю, ён карак не саб'е».
Пайшлі яны да месца удваіх.
Адзін маўчыць, ды і другі заціх.
Пра што ім думалася ідучы —
ты добра ведаеш, але маўчы...

**Уладзімер Дубоўка**

**К. Рамановіч**

## *ПРАТЭКЦЫЯ*

Нядаўна я пазнаёміўся з адным прафэсарам-гісторыкам...

У гутарцы зы мной ён паказаў сябе, як добры знаўца ня толькі гісторыі сярэднявечнай і сучаснай, але й археалёгіі, фізыкі, батанікі, літаратуры й навет іхтыялёгіі. Дарэчы, стары прафэсар ахвотна вудзіць рыбу, і аб вазёрных карпах можа чытаць двухгадзінныя лекцыі.

Закідае ён вудачку таксама і ў паэзію: ловіць дробных плотак — рыфмы й няўдалыя асанансы. Адным словам, вершы піша. Сябруе, кажа ён, з Музаю амаль сорак год. Але дарма — ягоных вершаў нідзе ня друкуюць.

— Пратэкцыі няма, — кажа сумна прафэсар, нэрвова цярэбячы сваю сівую бародку.

Пратэкцыя... Знаёмае слова, здаўна чутае. І прыгадаліся мне першыя мае крокі ў літаратуры. Можа й тады была пратэкцыя?

У мяне неяк пачалося зьнеспадзеўку. І ня зь вершаў, як звычайна пачынаюць усе, а наадварот — з прозы.

Быў я студэнтам пэдагагічнага тэхнікуму. Аднаго разу папрасіў мяне аднакурсьнік Ахрэм Ланіч:

— Напішы што-небудзь у насьценную газэту.

Я ў нехаць, а ён заахвочвае:

— Напішы, браток! Напішы!.. Прыгожа аформім. І загаловак жоўтай хварбай, а мо й залатой. І твой подпіс рознымі хвінціхлюшкамі аздобім. Убачыш, як будзе хораша. Напішаш? А?

Ад яго й не адчэпішся, думаю. Трэба абы што напісаць. Узяўся за пяро.

Першы блін, як кажуць, комам. Ну, ды ўсё роўна. Нясу гэты блін Ахрэму Ланічу.

Той прачытаў і адразу нешта скеміў:

— Ведаеш што? — кажа ён. — Ня пойдзе ў наступную газэту. Гэткаму апавяданьню трэба даць іншае месца. Я маю моцныя сувязі зь пісьменьнікамі. Асабліва ў «Маладняку». І я ўсё зраблю. Абавязкова надрукуюць. А ганарар — напалам. І аўтарства, зразумела, удвох. Крывішся? Ну, як хочаш. Без пратэкцыі ты, браце, і ня суньcя. Толькі справу сапсуеш. Апавяданьне, кажу, добрае. Пойдзе без паправак. Але загаловак трэба зьмяніць. Думаю дапасаваць вось такі...

Ахрэм Ланіч пасьпешна схапіў мой рукапіс, закрэсьліў загаловак у ім і зьверху напісаў: «Бывае здарэньне».

Я не пярэчыў. Няхай будзе гэтак. Можа так і лепш. Можа гэтыя словы акурат дапасуюцца й да майго літаратурнага пачатку.

Цікава, няўжо надрукуюць?

Надзеі, сумлеў, трывожнае чаканьне. І нарэшце — праз некалькі дзён зьдзейсьнілася...

Радасьць ад першага друкаванага твору захлынала мяне цалкам, ад хваляваньня калаціліся рукі, на газэце падскаквалі літары.

Вось яно, апавяданьне! Так, так... Бывае здарэньне.

Больш спакойна, але таксама бязьмерна радасны сядзеў за сталом і Ланіч. Ён па некалькі разоў прачытваў наша, як ён казаў, калектыўнае апавяданьне.

— Пішы, браток, яшчэ. Пішы. Ганарар заўсёды атрымаеш. Будзь пэўны! А за гэтае вось ужо маем...

Ён выняў з кішэні грошы, пералічыў іх і палавіну даў мне. Ізноў радасьць гарачай хваляй — гэта-ж першы заработак! А яшчэ праз некалькі дзён Ахрэм Ланіч прынёс запраўды радасную неспадзяванку.

— Мы з табой — сябры «Маладняка», — сказаў ён ганарыста. — Я падаў заяву ад майго й твайго імя. Учора разглядалася. Нас прынялі, як пісьменьнікаў. Сяньня ўвечары пойдзем на літаратурны сход.

Сходы маладнякоўцаў адбываліся ў невялікім пакойчыку Інбелкульту. Маладыя паэты чыталі свае вершы. Разгортваліся дыскусіі, выказваліся заўвагі. Упяршыню я тут убачыў паэтаў: Чарота, Крапіву, Дубоўку, Пушчу.

Ахрэм Ланіч, каб паказаць мне сваю пісьменьніцкую вагу, круціўся каля іх, улазіў у іхную гутарку і, як блазан, сьмяяўся. Мне здавалася, што ён ім падміргвае ў мой бок і кажа: — Вось мой памагаты.

Пасьля сходу я сказаў Ланічу: — Ахрэм, я напісаў новае апавяданьне й яшчэ адзін верш. Аддаў у газэту. Рэдактар мне сказаў, што ўжо ў друкарні. У наборы.

— Без маёй пратэкцыі. Ня хочаш напарніка? — крыва ўсьміхнуўся Ахрэм. — Што-ж! Справа гаспадарская.

...Праз паўгода Ахрэм Ланіч аднаго разу сказаў мне:

Табе шанцуе. А мае вершы нешта заляжаліся. Ня друкуюць. Няма пратэкцыі. Можа-б ты, браце, памог. Вазьмі, калі ласка, мой допіс селькора. Прапхні яго ў друк.

**К. Рамановіч**

**Уладзімер Дудзіцкі**

*
* *

Ёсьць такія на сьвеце людзі,
пра якіх навет мовы няма...
Б'юць сябе кулакамі ў грудзі,
каб за лейцы сваіх трымаць.

А чужым — чужаніцам — насьцеж
дзьверы хаты, шляхі дарог...
Ім ня цяжка шпурляць і красьці,
што ў пакутах гадоў зьбярог

чалавек — і красу, і годнасьць,
срэбра думак, сьвятло сьвятла.
Вельмі прыкра, што ў целе родным
прэе бросьня жывога тла...

1958 г.

— Дзякую табе, дзякую, што ўважыла... Прыбіўшы хлопца, то можна й праведаць... Вельмі рады мы твайму праведаньню... Чакалі, ледзь дачакаліся... Вось і Валодзя прышле табе падзяку за брата...

— Што вы, што вы гаворыце? — у вабурэньні пытала дзяўчына. — Цётка Аксіньня, гэта-ж усё няпраўда. Я хацела вам расказаць, як усё было. Я якраз ратавала Васіля.

— Ратава-ала... — злосна паўтарыла Аксіньня. — Як гэта ты ратавала? Што ня біла сама? Даволі таго, што твой брацік біў пад тваю каманду. Мокрут быў у мяне, усё расказаў.

«Мокрут ува ўсім і вінаваты» — хацела сказаць Даша, але жанчына нэрвова й роспачна замахала на яе рукамі, заплакала й неяк залішне жвава ўханілася за вёдры.

— Няма ўжо Васіля дома, — плачучы, сказала яна, калі ўвайшла ў двор. — Няма. Завязьлі ўчора зранку ў бальніцу.

— Праўда?! Даша кінулася ўсьлед за цёткай Аксіньняй, але тая з наўмыснай спрытнасьцяй зьняла з прабою зашчапку, пераставіла цераз парог вёдры й зачыніла за сабой дзьверы.

З болем і пякучай крыўдаю ў сэрцы саступіла Даша з пасыпаных попелам усходцаў. Міжвольна глянула на вуліцу, ці ня йдзе хто, ці ня бачыць яе такой ганьбы, такога цяжкага, несправядлівага сораму. Каб была якая-небудзь асобная сьцежка, па якой можна было трапіць дадому, ня выходзячы на вуліцу, Даша, напэўна, пайшла-б гэтаю сьцежкаю. Няхай хоць праз лясы, праз балоты, абы толькі людзей ня сустракаць, не паказвацца нікому. Такога горкага, бездапаможнага адчуваньня, здавалася, яшчэ ніколі ня было.

Ухутаўшы шарсьцяной хусткай твар, яна квола пайшла да варот, потым вярнулася, падыйшла да калодзежнага вочапу. Нізкі й пахілены зрубчык запраўды ледзь ня ўвесь быў замураваны намаразьзю. У ім віднеўся круглы й сьлізкі праём, але такі, што вядро ня пройдзе. Даша марудным паглядам акінула двор. Ёй хацелася знайсьці што-небудзь пад руку: рыдлёўку, сякеру ці які-небудзь прут. Але ў двары нідзе нічога ня было. Падобна было на тое, што навет і палена дроў на сэдасе няма. Ходзіць, пэўна, жанчына, выпрошвае, пазычае.

«Два сыны ў мацеры, — сумна падумалася Дашы. — Аднаго даўно няма дома, а другі, відаць, ня меў часу памагаць старой каля хаты. Нялёгка жылося мацеры, а тут яшчэ гэты цяжкі, нязвычайны выпадак».

Дзяўчыне раптам шкада стала Аксіньню, і крыўда на яе пачала трохі адлягаць. Каб хто другі на яе месцы, то можа нагаварыў-бы яшчэ больш. Яна, мабыць, з гора злуецца, а матчына сэрца чуе праўду, пэўна-ж і Васіль хоць два словы сказаў.

Даша выйшла на вуліцу, і ёй ужо ня так прыкра было падумаць пра людзкія вочы. Калі-б добры чалавек сустрэўся, то няхай-бы сабе сустракаўся. Можна было-б навет пагаварыць зь ім, падзяліцца душэўнымі пакутамі. Таму й рашыла яна зайсьці ў сельсавет. Ведала, што Мокрута так рана ня будзе, а зь Іванам можна пагаварыць, гэты хлопец усё разумее. Калі-ж трапіцца Мокрут, то пагаворыць, вядома і з Мокрутам, толькі ня так, як зь Іванам, ня тым голасам.

Іван запраўды быў ужо на рабоце. Калі Даша ўвайшла ў ягоную бакоўку, ён нешта чытаў у вялікім сінім блякноце, прыкметна памятым ад таго, што яго насілі, відаць, не ў партфэлі.

— Паслухай, што напісана, — зьвярнуўся ён да дзяўчыны, як толькі яна прывіталася й села каля стала.

«Калі чалавек ня бачыць і не адчувае вакол сябе людзей, значыцца й сам ён ужо не чалавек, а тым больш не савецкі работнік. Князёк і сабака ў Чырвонамакаўскім сельсавеце».

Іван задаволена засьмяяўся.

— Здорава, га? Слухай далей!

«Ёсьць такія рэчы, пра якія ўжо нельга маўчаць. Сэрца ня вытрымлівае».

— А чый гэта блякнот? — з зацікаўленасьцяй папытала Даша. Паводля складу яна адчула, што гэта ня Іван пісаў.

— Не блякнот, а славутая запісная кніжка, — нібы падвясельваючы Дашу, адказаў Іван. — Тут многа чаго цікавага й карыснага запісана. Яе забыў тут у мяне Павал Паўлавіч. Хутка, мабыць, схопіцца, прыбяжыць.

— Якое ты маеш права чытаць чужыя запісныя кніжкі? — зь лёгкім, нібы навет жартаўлівым папрокам папытала Даша.

— Павал Паўлавіч не пакрыўдзіцца, — адказаў Іван. — Тым больш, што я ўжо даўно ведаю пра ягоныя запісы, ён сам мне гаварыў.

«Параіцца-б зь ім», — мільганула ў дзяўчыны думка, і, яшчэ канчаткова ня вырашыўшы гэтага, яна папытала, дзе цяпер Павал Паўлавіч.

— Добра ня ведаю, — адказаў, падумаўшы, Іван, — але мяркую, што ў школе, у Ільлі Савіча. Учора яны цэлы вечар сядзелі ўдвух у дырэктарскім кабінэце, нешта вырашалі. А нанач Павал Паўлавіч прыйшоў сюды, гэта ўжо такі чалавек.

— Чаму-ж ты яго да сябе не запрасіў?

— Я запрашаў, — стаў адразу апраўдвацца хлапец. — Навет вельмі прасіў. І дырэктар цягнуў яго да сябе. Яны тут заходзілі абодва да мяне. Дык хіба чалавек паслухаў? Выдумаў, што яму трэба пісаць усю ноч, і застаўся ў маёй бакоўцы. Пісаў, бачу, — тут маім чарнілам напісана, але-ж ня ўсю ноч пісаў.

— Добра сказана, — задумліва прамовіла Даша, — але трохі пазнавата. Запраўды, нельга маўчаць, ды ня толькі сяньня, а і ўчора нельга было маўчаць, і пазаўчора. У нас ад таго й праявы розныя, што некаторыя вельмі ўжо любілі маўчаць.

Іван нібы ў сполаху глянуў на дзяўчыну, і ягоныя вялікія, прыкметна адтапыраныя вушы пачырванелі.

— Я ня толькі пра цябе гавару, — заўважыўшы гэта, працягвала Даша. — Я й пра свайго бацьку гэта скажу, і пра Андрэіху. Адны з вас вельмі ўжо баяліся глянуць праўдзе ў вочы, а другія не хацелі псаваць сабе спакойны сон, чакалі, што нехта іншы прыйдзе і ўсё зробіць. А ліха, калі не перасекчы яму дарогу, не чакае. Яно падбярэцца да ўсіх і ня дасьць соладка спаць кажнаму. Гэта й мой стары пачынае ўжо разумець, толькі ўсё яшчэ Міхася з гораду чакае, мне не заўсёды верыць.

— Я то нічога не чакаў, — із сяброўскай шчырасьцяй у голасе пачаў Іван, — і боязьні асаблівай у мяне ня было. Я проста шмат чаго не разумеў. Мне здавалася раней, што мае думкі ня могуць быць для каго іншага цікавымі, што ўсе ўжо даўно тое ведаюць, што я ведаю. Хоць, калі сказаць ад душы, то я не адзін раз гаварыў, напрыклад, Васілю, што нельга так выслужвацца перад Мокрутам, што кажны чалавек павінен мець сваю самастойнасьць. Аднак-жа Васіль мяне не паслухаў, значыцца, я дрэнна гаварыў.

— Хто яго ведае, — уздыхнуўшы, прамовіла Даша. — Можа ты дрэнна гаварыў, можа Васіль дрэнна слухаў. Наконт гэтага хлопца і ў мяне вельмі неспакойна на душы. Ня ведала я яго, не разумела. Жыў сабе сакратар Чырвонамакаўскага сельсавету, бегаў з кардоннай папкаю па вёсках, і думалася, што ўсё тут ідзе, як трэба. А мне яшчэ Валодзя неяк скардзіўся на яго: мацеры ня слухае, выпівае часта.

Даша спахмурнела пры гэтых словах, апусьціла галаву, а Іван, нібы адчуўшы, што на яе могуць найсьці цяжкія ўспа-

# *To a Brother in Exile*

**Ад Рэдакцыі**

**Ніжэй зьмяшчаем верш «Брату на чужыне» Янкі Купалы ў перакладзе ангельскае паэткі Vera Rich, якая зрабіла ўжо цэлы шэраг перакладаў зь беларускае паэзіі.**

**Як даведваемся, цяпер паэтка працуе над перакладам паэмы Якуба Коласа «Сымон Музыка».**

Do you recall, my heartless comrade,
The land where you were born and grew?
Where winter sang you songs of coldness
And summer gleamed with sunlit dew?

Jewels of the sky, the sun and starshine,
The moonlight, swaddled in the mist,
The night-long murmuring of Rusalki,
The day-time songs of happy birds?

Do you recall native village,
Its outlook, half-afraid and shy,
Where first you sought the world's adventure,
Where childhood days flowed smoothly by?

The dumb fields, and the hay-filled meadows,
Willows adorning turfy ground;
Graves where your brethren sleep in silence
Beside an ancient burial mound?

The son-porch, and the rustic fences,
The well-loved cottage that you knew,
The little barn, built by your father,
That still leans crazily askew?

How, where the rows of trees were planted,
A sandy roadway winds uphill?
The ancient bridge, half-wrecked by flooding?
Sad lines of willows, weeping still?

Do you recall your own dear mother;
How, at your cradle-side she'd sing,
And while she crooned her "luli-luli"
Swarms of her hopes were on the wing?

Holy songs of your native verges,
The well-loved works of simple speech,
Whose tower-hung bells send echoes chiming
Out where the dark pine-forests stretch?

Recall the harvest, day-long moving,
Fires in the summer-pasture nights;
The flocks of storks and geese migrating,
Cranes winging south in autumn flights?

And village dress, untaught by fashion,
Rustic tradition, plain and grand...
All Byelorussia, peaceful, mournful,
Do you recall your native land?..

Translated by **Vera Rich**

---

**Уладзімер Дудзіцкі**

* * *

...І чуваць здалёку,
і відаць із блізку —
ніжа мроі лёкай
на чужую нізку...

А чаму й навошта,
а каму для спору
росьціць цяжкім коштам
лёкай сум і гора?

І хто сёньня скажа,
і хто скажа заўтра,
што такое кражы
даравиць ня варта?

1958 г.

* * *

Мне сягоньня моцна дакарае
чалавек зь няведамага краю.

І каб сон ня ведаў супакою,
кажа людзям, цэдзячы, такое:

«...і сякі ён, і такі, і гэткі...»
І «сяброў» маіх валае ў сьведкі:

«Ты, мая надзейная кагорта,
пільнай будзь! Уважна перагортай

дні яго... і мінусы, і плюсы...
Я-ж за ўсіх хварэю і малюся».

Так ён грэх свой латае і шые,
каб спрытней трымацца на вяршыні,

ледзьве скроенай на сыпкім чвыры,
прытвараючыся надта шчырым.

Папытайцеся — адкуль і хто ён,
ён адразу скажа, ды ня тое:

«Я і сам душу сваю караю
за дабро няведамага краю»...

Дык чаму-ж мне моцна дакарае
чалавек зь няведамага краю?

1958 г.

* * *

Ёсьць у нашай малітве словы:
«Даруй грэшным усе грахі».
...Калі бачыш сьвятло у новым —
ня спыняйся, ня будзь глухім!
1958 г.

---

**Рыгор Крушына**

* * *

Сьпяваюць родныя палі,
Танцуе радасьць на кіліме.
І зазіхцелі, паплылі
Праменьні колерамі ўсімі.

І мне цяпер усё адно —
Ці ў дождж, ці ў буру, ці ў завею.
Я маю добрае віно:
Цябе і верш. І я хмялею.

Радкі, як рукі падаю,
І маладосьць тваю вітаю.
Ізноў на лірыку маю
Лёг шэпат згубленага раю.

Перада мною ты стаіш,
Як Эва зь яблыкам спакусным,
І слова рве начную ціш,
І ўжо няма спакою вуснам.

Я маю добрае віно:
Цябе і верш. І я хмялею.
У снох нясу на палатно
Жывую белую лілею.

2. 2. 1958

# *Сумны гонар Б. Пастэрнака*

«Я — такая сіла, якая робячы зло, мусіць рабіць добрае...» — гаварыў Гётаўскі Мэфістофэль.

Цяжка сяньня сказаць, якімі меркаваньнямі кіравалася швэдзкая Акадэмія, прысуджваючы літарацкую Нобэлеўскую прэмію Барысу Пастэрнаку, але, здаецца, што ўсё-ж такі адваротным прынцыпам: акадэмікі хацелі зрабіць нешта добрае, але атрымалася блага. Швэдзкія акадэмікі хацелі адзначыць і ашчасьлівіць Пастэрнака, але не падумалі (хаця мусілі-б), што гэтым самым зробяць яму вялікую няпрыемнасьць, калі ня нешта горшае. Праўда, у Савецкім Саюзе быццам бы супакоілася сталінская крывавая пурга й Пастэрнак можа ня схопіць фунт волава ў патыліцу, аднак факт, што яго выкінулі із Саюзу савецкіх пісьменьнікаў і адабралі права называцца савецкім пісьменьнікам наагул (!) — не варожыць нічога добрага аўтару «Доктара Жывага».

Не магло быць сумлеву, што рэакцыя Масквы на пастанову швэдзкай акадэміі будзе нэгатыўная й войстрая, але злосьць гэтай рэакцыі пераступіла ўсе прадбачваньні. Тон савецкай прапаганды выйшаў з усіх межаў прызваітасьці і, заместа культурнае дыскусіі, карчомная хамская лаянка. Ужо толькі загалоўкі — «Правакацыйная прыхватка міжнароднай рэакцыі» і «Шуміха рэакцыйнай прапаганды навокал літаратурнага пустазельля» — сьветчаць аб тоне выказваньняў савецкай прапаганды. Няма ў друкаванай мове больш ганьбячых мянушак, якімі-б не абзывалі Пастэрнака ў гэтых газэтах. Тут і «ўваскросшы Юда», і «буржуйскі прыхвасьцень», і «подленькі сноб», і Бог ведае што. Швэдзкія акадэмікі — «пакорныя халуі буйнай буржуазіі», «правакатары», «рэакцыянэры»... Далей у прыгаданых артыкулах мы чытаем такія выказваньні: «Пастэрнак шчыра ненавідзіць рускі народ», «сьмердзякоўскае аплёўваньне рускага народу» — прыхватка выразна разьлічаная на змабілізаваньне супраць Пастэрнака расейскага патрыятызму.

Ня будзем сяньня прадбачаць, які лёс чакае Пастэрнака, аднак і аб гэтым крышку гаворыць савецкая прапаганда. Яна кажа, што да гэтага часу Пастэрнак «знаходзіўся ў шэрагах савецкае літаратуры й карыстаўся з усіх дабрадзействаў, якія савецкі народ шчодра дае пісьменьнікам». Алюзія зусім выразная: цяпер, калі Пастэрнака выкінулі з шэрату савецкіх пісьменьнікаў, ён будзе пазбаўлены гэтых «шчодрых дабрадзействаў. Магчыма, што заместа загранічнага пашпарту й дазволу на падарожжа ў Штокгольм, Пастэрнак атрымае акт абвінавачаньня за нелегальныя кантакты з «буржуазнымі выдавецтвамі» й нелегальную высылку ім «паклёпніцкага, антысавецкага твору», а пазьней, як югаслаўскі Джыляс — пару гадоў казённага хлеба й жыльлёвай плошчы на лягерных нарах.

Але няма сэнсу загадзя рабіць з Пастэрнака мучаніка.

Няма сумлеву, што Барыс Пастэрнак — пісьменьнік высокае клясы. Аднак з прычыны ягонай арыгінальнасьці, складанасьці й перадусім таму, што бальшавіцкі рэжым адносіўся да яго нэгатыўна ды не папулярызаваў ягоных твораў — яны застаюцца малаведамымі шырокім масам чытачоў на Захадзе. Таму выразна бачна, што, прызнаючы гэтую прэмію, акадэмікі кіраваліся й да пэўнай ступені палітычнымі матывамі, хаця напэўна ня тымі злачыннымі, якія ім цяпер прыпісвае савецкая прапаганда. Хаця фундатар узнагароды, Нобэль, вынайшаў дынаміт, швэдзкія акадэмікі ня думалі Нобэлеўскай прэміяй падміноўваць Крэмль. Хутчэй яны кіраваліся набожнымі пажаданьнямі пашырэньня г. зв. культурных сувязяў, узаемнага зразуменьня й лепшых узаемадачыненьняў з маскоўскім мядзьведзем.

О sancta simplicita! На гэтыя набожныя пажаданьні й наіўныя мроі бальшавікі вылілі ня толькі цэбар сьцюдзёнай вады, але й ражкі памыяў. Ці гэта іх атрэзьвіла? Ня выглядае... Два дні пасьля хамскай лаянкі бальшавіцкай прапаганды швэдзкая Акадэмія прызнала Нобэлеўскую прэмію тром савецкім фізыкам. Што-ж, бачна, паводля біблійнага: «Хто ў цябе каменем, ты яго хлебам», «калі цябе сьцебануць па левым вуху — падстаў правае...»

Запраўды дзіўнымі шляхамі-бездарожжамі ходзіць людзкая лёгіка... **пс**

# Аб вугорскіх пісьменьніках

Аб вугорскіх пісьменьніках можна сказаць, што яны былі першымі ў краіне, якія паўсталі супраць камунізму, а цяпер яны з поўным правам могуць разглядацца, як апошнія абаронцы вызвольных ідэяў. Паўстаньне 56. г. пачалося ад таго, што вугорскія пісьменьнікі пачалі дамагацца свабоды слова. Цяперашняя іхная пазыцыя выяўляе іншую форму, аднак ня менш рэвалюцыйную. Паліцыйны тэрор, якім паслугоўваецца ўрад Кадара, не дасягнуў свае мэты. Падчас паўстаньня вугорскія пісьменьнікі дзеялі шляхам адкрытага пратэсту й бунту супраць камуністычнай ўлады. Цяпер, пасьля двух гадоў, яны дзеюць іншым спосабам і вельмі вымоўным — яны маўчаць. На працягу доўгага часу кадараўскі ўрад намагаўся ўсякімі спосабамі, ад пагрозаў да подкупу, перамянаць вугорскіх пісьменьнікаў у неабходнасьці спыніць гэтае маўчаньне й прыняць удзел у тым, што ўрад называе «культурным жыцьцём краіны». Усе гэтыя імкненьні не далі ніякіх вынікаў.

Камуністычная прэса Вугоршчыны перш за ўсё нападае на тых вугорскіх пісьменьнікаў, якіх яна абвінавачвае ў нацыяналізьме. Але калі гэта назваць нацыяналізмам, дык трэба адзначыць, што гэты нацыяналізм існуе ў Вугоршчыне не ад учарашняга дня. У 1848 годзе змаганьне за свабоду Вугоршчыны ачольваў Шандор Пэтэфі. Ад таго часу вугорскія пісьменьнікі заўсёды былі ў авангардзе тых, хто абараняў імкненьні вугорскага народу да незалежнасьці й свабоды.

Вугорскіх пісьменьнікаў, якіх Кадар раз намагаецца запалохаць, іншы раз задобрыць, нельга назваць нацыяналістымі, якія ўпадаюць у шавінізм, іх нават нельга назваць і антымарксыстымі. Ні адно, ні другое азначэньне ў гэтым выпадку ня было-б праўдзівым. Вугорскія пісьменьнікі выяўляюць волю вугорскага народу здабыць незалежнасьць

(Заканчэньне на 6-ай бач.)

---

міны, паспрабаваў надаць размове крыху весялейшы характар.

— На гэтых днях быў у мяне Сямён Казырок, — стрымана ўсьміхнуўшыся, пачаў ён. — Рагатаў тут, успамінаючы, як Мокрут з Васілём у яго дзіця запісвалі. Праведалі, што гаспадар зарэзаў цяля на радзіны, прыйшлі адзін раз з папкаю, з блянкамі. Выпілі, зразумела, у ахвоту, закусілі, а празь дзень «агледзеліся», што быццам-бы ня тыя блянкі запоўнілі. Зноў прыйшлі, зноў выпілі, закусілі.

— І Ціхоня зь імі хадзіў? — крыху ажывіўшыся, папытала Даша.

— Не, — заківаў галавою Іван. — Ціхоня толькі адзін раз быў, а больш не пайшоў. Наш фінагент яго замяніў. У гэтага нюх добры.

— А дзе-ж сяньня Мокрут? — раптам аглянуўшыся на ўваходныя дзьверы, пацікавілася Даша. — Ці ён па раніцах у сельсавеце ня бывае?

— Бывае, — сказаў Іван, — але сяньня, мабыць, паехаў нечага ў раён. Зьбіраўся ўчора, ганяў тут фінагента.

— Слухай, Іван! — Даша ўстала, паімкнулася прайсьціся па бакоўцы, але тут і двух крокаў ступіць ня было дзе, — вялізны стол ды два зэдлікі займалі ледзь ня ўсю прастору. — Мне ўжо йсьці пара, а я яшчэ галоўнага ў цябе ня спытала. Скажы, ты заходзіў пасьля гэтага здарэньня да Печкаў, бачыўся з Васілём?

— Кажны дзень заходзіў, — пасьпешна адказаў Іван. — От і ўчора быў, навет памагаў Аксіньні сабраць яго ў бальніцу.

— А я ня ведала, што Васіль у бальніцы. Толькі вось нядаўна даведалася.

— Ты заходзіла туды? — відаць цяпер здагадаўшыся, чаго Даша так рана ў Чырвоных маках, зьдзіўлена папытаў Іван. — Што табе сказалі?

— Мяне ня пусьцілі ў хату, — глуха прамовіла Даша. Потым яна зноў села на зэдлік і заплакала. Пачалі ўздрыгваць яе сьхіленыя над сталом плечы й рукі, крыжыкам складзеныя пад галавою, дрыжала расшытая блакітнымі пеўнікамі рукавічка, якую дзяўчына трымала ў руцэ. Іван глядзеў на Дашу й ня ведаў, што сказаць, чым яе суцешыць. Ён разумеў ейныя перажываньні, разумеў тыя супярэчлівыя й вельмі складаныя абставіны, у якіх яна апынулася, але ня мог у гэтую хвіліну знайсьці патрэбнае слова, патрэбную разьвязку. Васілёва маці падумала дрэнна, калі ня пусьціла яе ў хату. Пакрыўдзіла й балюча абразіла дзяўчыну, якая, напэўна, будзе ейнай нявесткай. Маці напіша Валодзю аб тым, што сама думае. І Валодзя, ня ведаючы ўсяго, што было, можа паверыць сваёй матцы. А Даша любіць Валодзю. Вельмі любіць і чакае. Гэта, так сказаць, адзін паварот справы. А з другога боку, калі так усё застанецца, Васіль змоўчыць, другія змоўчаць, то Мокрут абвінаваціць Дашу ў зьнявечаньні чалавека й такім чынам зноў возьме верх над усімі.

— Туды заходзіў Мокрут? — ціха папытаў Іван. — Не казала яна табе?

— Быў, — выціраючы рукавічкай сьлёзы, адказала Даша. — Ад яго ўсё й пайшло.

— Ведаеш што? — раптам узьнятым голасам прамовіў Дабрасельскі. — Давай пойдзем да Васілёвай мацеры з табой удваіх. Мяне яна не асьмеліцца ня пусьціць. Я раскажу ёй, што мне гаварыў Васіль, яшчэ калі ня быў у гарачцы, раскажу, што другія хлопцы гаварылі. Давай пойдзем!

— Не, я ўжо не пайду, — памяркоўна адказала Даша. — Мне няёмка, а ты, Іван, схадзі, я вельмі прашу цябе. І ня толькі сяньня, а кажны дзень заходзь — табе тут бліжэй. Трэба памагчы цётцы Аксіньні, старая яна ўжо, слабая, ды засталася зусім адна. Вунь у яе навет калодзеж не прачышчаны, ходзіць, бедная, да суседзяў, носіць адтуль ваду.

— Абавязкава я ўсё гэта зраблю, — цьвёрда сказаў Іван. У вачох яго засьвяцілася радасьць ад таго, што Дашы стала хоць крышачку лягчэй. — Я раскажу Аксіньні ўсю праўду й пераканаю яе. І дапамагаць ёй буду кажны дзень. Я раскажу праўду ўсім людзям, ня толькі Аксіньні.

Выйшаўшы із сельсавету, Даша пачала сьпяшацца, бо яна ўжо цьвёрда намерылася сяньня-ж ісьці ў раённую бальніцу. Трэба было яшчэ толькі зайсьці дадому ды ўладзіць сёе-тое на фэрме. У галаве толькі й думкі, што пра Васіля; як яна зь ім сустрэнецца, як пагаворыць, магчыма, навет папросіць, каб ён сам напісаў Валодзю. Калі не цяпер, то як паправіцца. Ішла так сярэдзінаю чырвонамакаўскай вуліцы й не глядзела надта па бакох. Раптам пачула нібыта знаёмы голас:

— Дзень добры вам, дачухна!

Даша павярнула галаву і ўбачыла на сьцежцы каля плоту бабульку, якая, усьпёршыся на кій, ветліва глядзела на яе й зьлёгку кланялася.

— Добры дзень! — адказала дзяўчына, пазнаўшы, што гэта тая самая бабулька, якая некалі была ў сельсавеце. Даша адразу-ж падыйшла да старой.

— Куды-ж вы гэта з самага ранку? — прыветна папытала яна.

— Ды ў сельсавет, мілая, — адказала бабка. І голас яе, і выраз старэчага, трохі падсьвежанага марозцам твару былі такімі добрымі й лагоднымі, нібы яна сустрэлася з родным ёй чалавекам. — Наказалі, каб зайшла. Дзякуй вам, дачухна, што заступіліся тады за мяне, ды от-жа, што наведаліся на наш пасёлак. Зьнялі зь мяне той падатак, што былі напісалі, ды вось і лесу, дзякуй ім, далі, хату падладзіць. А то хата ў нас, вы-ж самі бачылі, як заходзілі: падрубы падгнілі, а пад вокнамі дык толькі ткні пальцам... А столь і падлога дык... А страха...

— Бачыла я ,усё бачыла, — спагадліва ўсьміхнуўшыся, запэўніла Даша. — Я таму й напісала ў райвыканком, каб вам адпусьцілі лесу. Вось яшчэ вывезьці гэты лес трэба было-б вам дапамагчы. Я пагавару з вашым старшынём калгасу.

— Дзякуй вам, дзякуй, — пачала паўтараць бабулька й ківаць над кіем галавою. — Дай Божа вам...

— Няма за што дзякаваць, — з ноткай расчуленасьці ў голасе загаварыла Даша. — Я рада, што хоць трошкі дапамагла вам. На тое-ж мяне людзі й выбіралі.

— Дзякуй вам, — зноў паўтарыла бабулька. — А вы-ж гэта куды так сьпяшалі, дадому?

— Ага, дадому, — адказала Даша. — А потым яшчэ ў раён сяньня пайду.

— То я ня буду больш займаць, — адступіўшы бліжэй да плоту, сказала бабулька. — Ідзеце здаровенькі. Перадайце паклон вашаму бацьку, Мітрафану. Ён павінен памятаць мяне, бо некалі, як былі маладыя... А можа Настулю ўгледзіце, жонку нябожчыка Андрэя, то і ёй перадайце паклон. Гэта-ж яе нябожчык і мой нябожчык былі некалі сватамі. І сыны нашы разам служылі. А можа Платона часам стрэнеце, то гэта-ж хрышчоны бацька майго нябожчыка Міколы, большага сына. А можа...

— Добра, добра, — ахвотна абяцала Даша й не сьпяшалася адыходзіць, каб не пакрыўдзіць старую. — Шчыра дзякую, усіх убачу і ўсім перадам ваш паклон.

Бабулька ўжо была й ступіла некалькі крокаў, але раптам зноў спынілася, удзёбнула свой кій у сьнег каля сьцежкі й павярнулася ў той бок, куды пайшла Даша.

# Хрушчоў пагражае... а хлеб даражае

На сэсіі Вярхоўнага Савету СССР, якая адбылася ў сакавіку сёлета Хрушчоў як быццам-бы мімаходам зачапіў вельмі важнае пытаньне. У сваім дакладзе «Аб далейшым разьвіцьці калгаснага ладу» ён сказаў, што хутка надыйдзе такі час, «калі ў нас будуць лішкі сельскагаспадарчых прадуктаў. Дзяржава будзе мець магчымасьць рабіць закупы збожжа, мяса й іншых прадуктаў у тых раёнах, дзе яны будуць таннымі, дзе сабекошт іх будзе ніжэйшы».

Значна ясьней выказаў Хрушчоў гэтую сваю думку некалькі дзён таму, калі ён прывёз у Краснадар ордэн Леніна за ўдачы ў разьвіцьці сельскай гаспадаркі. На ўрачыстым паседжаньні Хрушчоў сказаў: «Мы сёлета нарыхтуем вялікую колькасьць збожжа, гэта дасьць нам магчымасьць ня толькі забясьпечыць патрэбы краіны, але й закласьці запасы. На наступны год пры добрым ураджаю, а ўмовы для гэтага ёсьць, яшчэ павялічым запасы, каб гарантаваць краіну пры ўсякіх няспрыяльных умовах. Пры наяўнасьці дастатковых запасаў і добрым ураджаю у далейшым дзяржава будзе закупляць збожжа менш, чымся, прыкладам, сёлета. Цяпер мы купляем яго ўва ўсіх калгасах. Відаць хутка настане час, калі дзяржава будзе купляць хлеб у тых калгасах, якія будуць прадаваць яго па ніжэйшай цане...»

Такім чынам, тыя калгасы, якім хлеб будзе абходзіцца даражэй, чымся калгасам на ўрадлівых землях, апынуцца перад паважнымі цяжкасьцямі ў збыце збожжа. Такія калгасы прымушаны будуць свой хлеб прадаваць ніжэй сабекошту й будуць мець убыткі. Вось-жа Хрушчоў і раіць калгасам дабівацца зьніжэньня сабекошту прадукцыі шляхам павышэньня прадуктыўнасьці працы.

Каб зразумець гэтую хрушчоўскую палітыку, спынімся на адным мерапрыемстве савецкага ўраду, якое мае непасярэдняе дачыненьне да закранутага пытаньня. Там-жа на паседжаньні ў Краснадары Хрушчоў з захапленьнем паведаміў аб арганізацыі спэцыялізаваных саўгасных трэстаў, якія будуць разводзіць гародніну й бульбу для забясьпечаньня гарадоў. З гэтай мэтаю пад Масквою арганізуецца трэст у складзе 35 саўгасаў, якія ў 1959 годзе павінны пасадзіць 25 тысяч, ў 1960 годзе — 35 тысяч гэктараў бульбы. Пад гародніну адводзіцца 12,8 тысяч гэктараў.

Спэцыялізаваным саўгасам ужо наперад гарантуецца забясьпечаньне іх найлепшай тэхнікай, угнаеньнем і кваліфікаванымі кадрамі. Хрушчоў спадзяецца, што ў створаных савецкім урадам спэцыялізаваных саўгасах значна павысіцца прадуктыўнасьць працы работнікаў і саўгасы дадуць дастаткова таннай бульбы й гародніны для гарадоў і ў першую чаргу Маскве.

У сваёй прамове Хрушчоў адзначыў: «такая перабудова сыстэмы забясьпечаньня гароднінай прымусіць кіраўнікоў калгасаў задумацца... Калі калгас будзе прапанаваць гародніну па больш высокіх цэнах, гандлёвыя арганізацыі скажуць: — такія цэны для нас не падыходзяць і гародніну прыймаць ня будзем».

З хрушчоўскіх разважаньняў выходзіць, што пры адпаведных спрыяльных умовах ужо ў 1960 годзе дзяржава будзе значна менш купляць збожжа ў калгасах, і то закупы будуць праводзіцца там, дзе збожжа будзе танейшае. Ясна, што найбольш танны хлеб будзе ў тых частках Савецкага Саюзу, якія маюць урадлівую глебу й спрыяльныя кліматычныя ўмовы. Калі спэцыялізаваныя саўгасы вакол буйных гарадоў і прамысловых цэнтраў забясьпечаць іх прадуктамі, дык што будуць рабіць калгасы з тымі лішкамі збожжа, бульбы, гародніны, у якіх кошт з розных прычынаў будзе высокі? Куды і як такія калгасы будуць прадаваць сваю прадукцыю?

На чэрвеньскім пленуме ЦК КПСС Хрушчоў адзначыў, што калгасы будуць збываць сваю прадукцыю на калгасным рынку. «Аднак гэта зусім ня значыць, што кажны калгас павінен непасярэдня гандляваць на рынку. Гэта павінна рабіць наша спажывецкая каапэрацыя, зарганізавана так, **каб было выгадна для дзяржавы,** для калгасьніка й спажыўца»«падч. намі — В. Б.).

Такім чынам Хрушчоў не пацяшае калгасьнікаў, што яны будуць вольна распараджацца вынікамі свае працы й прадаваць на рынку збожжа й іншыя прадукты. Наадварот, ён нядвузначна паказвае, што на рынку калгасам ня будуць плаціць тых цэнаў, якія цяпер устаноўлены дзяржавай, бо некаторыя калгасы ўсядно змогуць прадаваць прадукты па цане ніжэйшай за дзяржаўную.

Нельга думаць, што савецкая ўлада згодзіцца на тое, каб калгасы сельскагаспадарчую прадукцыю прадавалі вольна на рынках. Усе гутаркі Хрушчова накіраваны на тое, каб настрашыць калгасы, што на выніку іх працы ня знойдзецца пакупнікоў. Ворганы гэтак званае спажывецкае каапэрацыі, што поўнасьцяй падпарадкаваныя дзяржаве й дзейнічаюць толькі паводля дырэктываў партыі, ня маюць ніякае свае волі, а тым больш ня будуць браць на ўвагу волю калгасьнікаў. Кірунак дзейнасьці адзіны: усё будзе рабіцца так, як выгадна камуністычнаму кіраўніцтву.

Хлебны манаполь існаваў й надалей будзе існаваць, незалежна ад таго ці будзе савецкая дзяржава беспасярэдня забіраць патрэбную сельскагаспадарскую прадукцыю ад калгасаў і саўгасаў, ці гэтыя функцыі часткава або поўнасьцяй будуць ускладзеныя на спажывецкую каапэрацыю. Уся гэтая хрушчоўская канцэпцыя зводзіцца да таго, каб ад калгасаў узяць прадуктаў як мага больш і за найменшую плату.

Цяпер, калі абставіны прымусілі камуністычнае кіраўніцтва перайсьці на закупы сельскагаспадарскае прадукцыі й адпала ўжо прыбытковая апэрацыя — натуральная аплата за працу ў калгасах МТС-аўскіх машынаў, а таксама амаль дармовыя абавязкавыя пастаўкі, Хрушчова непакояць вялікія кошты на хлеб. Гэтыя кошты значна павялічаюцца з прычыны безгаспадарчасьці пры ўборцы збожжа, пры транспартаваньні, а таксама на калгасных і саўгасных таках, на складах і базах. Усе гэтыя страты павышаюць кошты, якія непамерным цяжарам кладуцца на спажыўцоў і выклікаюць зусім справядлівае незадаваленьне працоўных.

В. Б.

# Аб вугорскіх пісьменьніках

(Заканчэньне зь 5-ай бачыны)

і свабоду — тое імкненьне да вызваленьня, якое спалучае змаганьне супраць аўстрыйскай імпэрыі ў 1848-ым годзе й змаганьне супраць камунізму ў 1956-ым годзе.

Аб тым, што адбываецца ў культурным жыцьці Вугоршчыны, расказваюць людзі, якім у вапошнім часе ўдалося перайсьці з Вугоршчыны ў Аўстрыю. Паводля іхных асьветчаньняў, Лясьлё Орбан, які стаіць на чале аддзелу ЦК Вугорскай камуністычнай партыі, паставіў за ўсякую цану прыцягнуць вугорскіх пісьменьнікаў да літаратурнай дзейнасьці. Ён перш за ўсё зьвярнуўся да пісьменьнікаў, якія маюць вялікую папулярнасьць у краіне — Дзьюля Ільлеш, Лясьлё Нэмэт і Аром Томашы, якіх ён абвінавачвае ў палітычнай блізарукасьці за іхную адмову пісаць. У прыватн й гутарцы зь імі ён ім абяцаў пратэкцыю рэжыму й талерантнасьць да іхных выказваньняў, калі яны згодзяцца вярнуцца да свае літаратурнае дзейнасьці. Яны адказалі камуністычнаму прапагандыстаму парознаму — але з аднальковай пагардай. Ільлеш сказаў, што ён стаіць на тэй самай пазыцыі, што й раней, і прадаўжае традыцыі вугорскай літаратуры, абараняючы незалежнасьць Вугоршчыны, якой цяпер пагражае большая небясьпека, чымся калі-небудзь раней. Нэмэт проста адказаў, што ён больш ня пісьменьнік. Томашы адказаў пасрэдна: у беспартыйнай газэце, «Мадзьяр Нэмцэт» ён зьмясьціў алегарычнае апавяданьне, сэнс якога ў тым, што ўсе вугорскія пісьменьнікі зьвязаныя паміж сабой адзінствам мэтаў — змаганьнем за свабоду й незалежнасьць.

Так вугорскія пісьменьнікі далей вядуць змаганьне, якое яны пачалі ў 56-ым годзе. Яны адмаўляюцца ад усякага супрацоўніцтва зь цяперашнім палітычным рэжымам краіны таму, што яны вераць ў справядлівасьць рэвалюцыйных ідэялаў 56-га году й вераць у будучыню свае краіны.

Р. В.

# Да пытаньня фэдэрацыяў

Гэтую тэму закрануў у № 40 (426) «Бацькаўшчыны» сп. Ю. Дубовік. Аўтар закранае амаль усе аспэкты пытаньня, не даючы аднак належнага адказу на ніводзін зь іх.

Трэба бязумоўна згадзіцца із сп. Дубовікам, што пытаньне фэдэрацыі вельмі старое, а на Беларусі ведамае ўжо з пары Ягайлы. Фэдэрацыя Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай дала вельмі трагічныя вынікі перадусім для Беларусі і, з прычыны гэтай фэдэрацыі, сяньня даводзіцца адбудоўваць тую незалежнасьць, якую стагодзьдзі таму наш народ страціў.

Праўда, ёсьць яшчэ й сяньня такія, што па сваёй псыхалёгіі «шукальнікаў бога», заміж займацца справамі паводля сваіх сілаў і магчымасьцяў, высоўваюць ідэі, якія на іхную думку толькі й могуць выратаваць сьвет. Іншыя праблемы, бліжэйшыя да іхных магчымасьцяў і прыроды, выдаюцца для іх нечым нягодным іх вялікай дастойнасьці. А ў выніку — ідэя фэдэрацыі для іх ёсьць адной зь «вядучых», якія паўстаюць пры пошуках «лепшага ўпарадкаваньня міжнародных дачыненьняў».

Але ня ўсе інтэлігенты, што выйшлі зь беларускага народу, ужо адарваліся ад роднага карэньня, а дзеля таго ў запраўдным незалежніцкім лягеры слова «фэдэрацыя» выклікае ня толькі насьцярожанасьць, а й папросту варожасьць, бо для нас усялякая фэдэрацыя, гэта за**губа.**

Справа ў тым, што фэдэралізм — гэта ідэя фантазістых, якая базуецца на нейкім шляхотным грамадзтве, якога ў рэчаіснасьці няма. Кажны народ ёсьць і доўга яшчэ застанецца ў сваёй падставе эгаістым і ніякія ідэялістычныя перакананьні ягоных часовых, да таго яшчэ кароткатрывалых, правадыроў яго не пераканаюць і ня зьменяць.

Каб загварантаваць дакладнае й чэснае выкананьне ўмовы аб фэдэрацыі, трэба каб народы, што твораць фэдэрацыю, былі роўнымі з гледзішча біялягічнае сілы, нацыянальнага характару, тэрыторыі, культуры, гушчыні жыхарства й г. д. Калі-б у вадным з гэтых фактараў адна нацыя аказалася-б слабейшай, зусім натуральным цёкам спраў слабасьць гэтая была-б скарыстаная сільнейшай нацыяй. Гэта й ёсьць зародак гегемоніі аднае нацыі над другой. **Сьледам за гэтым паўстае незадаваленьне** слабейшай нацыі й жаданьне мацнейшай утрымаць выгадную для сябе фэдэрацыю за ўсялякую цану, а ў выніку маем нацыю пануючую й паняволеную. Усе ўзвышаныя й шляхотныя ідэі закладальнікаў фэдэрацыі пачынаюць разьвявацца зараз-жа пасьля іх адыходу, а далей пачынаецца нармальны людзкі шлях да змаганьня за незалежнасьць, шлях, з усімі сваімі крывавымі праявамі.

Каму як каму, але Беларусам не патрэбна гэтага тлумачыць.

Далей сп. Дубовік піша, што тэндэнцыя ўзрастае ў кірунку задзіночаньня, да ліквідацыі нацыянальнай адасобленасьці, і г. д. Трэба быць добрым касмапалітам, каб ставіць праблему фэдэрацыі й крышталізацыі ў гэтай самай плошчы. Якраз ня інтэграцыя нацыяў, а нараджэньне што раз то новых дзяржаваў ёсьць характэрнай рысай нашай пары. Там, дзе фэфэрацыі й паўстаюць, дык адбываецца гэта пры дапамозе сілы ці подступу, але ніколі ня з добрае волі зацікаўленых бакоў. Гэта ранейшыя паны, імкнучыся захаваць сваю дамінацыю над паняволенымі раней народамі, падсоўваюць ім назоў «фэдэрацыя».

Сп. Дубовік падае як прыклад Брытанскую супольнасьць народаў. Прыклад, на маю думку, вельмі няўдалы, бо Брытанская супольнасьць гэта нічога іншага, як пераходная стадыя ад учарашняе каляніяльнае залежнасьці да поўнае незалежнасьці. Значыцца тут ня інтэграцыя, а чыстай вады дыфэрэнцыяцыя і толькі таму лагодная, што даўнейшыя паны маюць вельмі разьвіты палітычны розум і глядзяць далёка ў будучыню, іначай кажучы — імкнуцца з ранейшых сваіх патэнцыяльных ворагаў зрабіць прыяцеляў, і трэба сказаць, што ім гэта ўдаецца. Француская супольнасьць нацыяў — гэта яшчэ толькі праект, хоць няма ніякага сумлеву, што ў найлепшым выпадку яна пойдзе шляхам супольнасьці брытанскай.

Прыклад насэраўскай фэдэрацыі вельмі паказальны з гледзішча на адмоўныя бакі яе. Папершае фэдэрацыя гэтая творыцца не дзякуючы гістарычнай і геапалітычнай неабходнасьці, але дзякуючы хворай амбіцыі аднае адзінкі. Арабам патрэбны супакой і цяжкая праца пад адбудовай гаспадаркі, так як гэта робіць Ізраэль, а не амбітныя мроі тварэньня імпэрыяў з усімі загрозамі, якія адсюль выцякаюць. Калі ўжо глядзець з касмапалітычнага гледзішча сп. Дубовіка, дык канцэпцыя арабскай фэдэрацыі хутчэй патрэбная бальшавіком, чымся сьвету. Ды й мэтады «аб'ядноўваньня» Арабаў ніяк нельга кваліфікаваць як дабравольнасьць.

Задзіночаная Эўропа — гэта таксама вялікі знак запытаньня. Ды хто ведае, якія камплікацыі ў сувязі з гэтым задзіночаньнем могуць паўстаць.

Зусім іншая справа Арганізацыя Задзіночаных Нацыяў. Гэтая інстытуцыя ня творыць ніякае тэрытарыяльнае адзінкі, дае роўныя правы ўсім нацыям, малым і вялікім, калі ня браць на ўвагу права вэта для Пяці Вялікіх. Яна ня мае ніякіх тэрытарыяльных амбіцыяў, ня імкнецца ні пашыраць ні накідаць аднае якоесь зь існуючых культураў, а толькі хоча зблізіць да сябе розныя народы, знайсьці кампраміс у супярэчнасьцях і канфліктах між гэтымі народамі.

Праўда, мы ўжо няраз мелі нагоду бачыць як, прыкладам, Савецкі Саюз не падпарадкоўваецца пастановам АЗН, калі яны для іх нявыгадныя. Тое-ж самае робяць і некаторыя іншыя дзяржавы, вось хоць-бы сабе й Фэдэрацыя Паўднёвай Афрыкі. Але-ж гэта якраз яшчэ адзін аргумант супраць ствараньня вялізарных дзяржаўных арганізмаў, аргумант за распадзел на нацыянальныя дзяржавы. Такія дзяржавы, як прыкладам Ізраэль, лягчэй змусіць пакінуць акупаваныя абшары (Сінайскі паўабток, між іншым, быў Ізраэлю

(Заканчэньне на 7-ай бачыне)

---

— Чуеце, дачухна! — ужо мацней замаганіла яна, бо Даша была далекавата. — Прыдзеце як-небудзь у нядзельку ў госьці да нас. Дальбог, праўда. Вось хоць у гэтую нядзельку, што прыйдзе. Рады вам будзем. У мяне, вы-ж ведаеце, дачка такая, як вы. Эх, каб жывымі былі мае сыны!..

— Дзякуй вам, дзякуй!..

Даша ня ведала, што яшчэ сказаць, як паказаць бабульцы, што яна вельмі рада гэтай сустрэчы й гатова расцалаваць яе за такую шчырую цеплату, за такую сардэчную ласку. Яна йшла й адчувала, што ўжо малавата ў яе часу, што вельмі цяжка будзе пасьпець у раён, аднак не каялася, што пастаяла, пагаманіла з бабулькай. Неяк сьвятлей стала на душы ад гэтай выпадковай сустрэчы, і хоць можа не надоўга, але адхлынула ад сэрца тая млявая дакука, якая грызла нутро.

Хутчэй, хутчэй трэба йсьці.

## XIII

Невялічкі ранішні марозік зусім адлёг, мясцамі навет із стрэх капала, калі Даша выходзіла із сваёй вёскі. На шляху, укоўзаным санямі й машынамі, было да таго сьлізка, што йсьці даводзілася з асьцярогай і ня надта пасьпешна. Пакуль дзяўчына адмерала большую палавіну дарогі, было ўжо каля паўдня, а ў пачатку местачковых прысадаў яе сустрэў Мокрут, які ўжо вяртаўся з райцэнтру. Убачыўшы Дашу, ён крануў рукою фінагента, які сядзеў крыху пад перад і паганяў каня, спусьціў з вазка адну нагу. Фінагент нацягнуў лейцы, і Мокрут зьлез зусім.

— Куды ты ідзеш? — папытаў ён, ступіўшы некалькі крокаў да дзяўчыны. — У раён?

— Вядома, у раён, — адказала Даша. — Куды-ж мне?

— Ну, там далей яшчэ вінзавод ёсьць, — лагодна ўсьміхнуўся старшыня, відаць, задаволены сваім жартам.

— А ты, мабыць, адтуль? — стрымана кінула Даша.

Мокрут зарагатаў і падаў знак фінагенту, каб паварочваў назад.

— Давай і я крыху прайдуся з табою, — прапанаваў ён дзяўчыне, — а то падвязу, калі хочаш, туды і назад разам паедзем.

— Дзякую, — суха сказала Даша, — я адна пайду.

Яна паскорыла крокі, але Мокрут усё-ж грукаў ботамі побач, а воддаль за ім ехаў фінагент.

— Я не разумею цябе, Даша, — напусьціўшы на твар быццам-бы й шчырую крыўду, пачаў старшыня. — Чаго ты так разгневалася на мяне, зьненавідзела, пусьціла ўсялякія шэпты пра мяне па ўсяму сельсавету.

— Якія шэпты?

— Ну вось, хаця-б пра гэтага Печку. Хіба гэта праўда, што я прымусіў яго йсьці забраць у Андрэіхі бычка? Хіба гэта...

— Не забраць, а ўкрасьці, — перабіла яго Даша. — І не шапчу я пра гэта, а кажу ўсюды моцна й скажу яшчэ мацней. Мне сам Васіль пра гэта гаварыў.

— Цікава, што-б ты сама сказала, атрымаўшы столькі кухцялёў? — засьмяяўся Мокрут. — На роднага бацьку ў такіх умовах можна нагаварыць.

— Ён расказваў пра гэта й потым, калі ляжаў дома. Людзі чулі.

— Але-ж гэта няпраўда! — рашуча прамовіў старшыня і махнуў перад сабою абедзьвюма рукамі. — І наогул, ня было ніякай пакражы. Сама Андрэіха гэта прызнае.

— Андрэіху ты быў запалохаў, — абурана й цьвёрда глянуўшы Мокруту ў вочы, сказала дзяўчына. — Але ня думай, што яна ўсё жыцьцё будзе дрыжаць ад цябе. Сяньня быў у яе сьледчы, і яна расказала яму ўсю праўду.

— Ага, вось яно! — нібыта зьдзівіўся Мокрут, а ў вачох усё-ж замільгалі насьмешлівыя іскрынкі. — Гэта значыць, што ўжо ты падвучыла. Ізь сівым маладажонам на пару. Ну, што-ж! Вучы, вучы! Пабачым, што з гэтага выйдзе!

— Яе ня трэба вучыць, — адказала дзяўчына. — Горам навучана. Прыйдзе пара, — скажа яшчэ ня тое.

— Што гэта за намяканьні?

— Сам ведаеш!

— Ну, вось што! — страсянуўшы вальлячком, — павысіў голас старшыня. — На ўсё гэта мне наплюваць! І на твае намяканьні й на твайго сьледчага! Скажу так: хочаш жыць са мною ў міры, працаваць, як належыць дэпутатцы, дык давай будзем працаваць. Нам няма чаго сварыцца, нам трэба разам умацоўваць свой сельсавет. Калі-ж у цябе выбрана другая дарожка, то гавару з чыстым сумленьнем — сьцеражыся! У парашок сатру, калі на гэта пойдзе. Бацьку твайго, гэтага папоўскага прыслужніка, пашкадаваў у свой час, а цябе не пашкадую, хоць ты й дарагой была мне, вельмі блізкай. На дырэктара спадзяешся? Не спадзявайся! Не такія, як ён, трапляліся мне на дарозе, ды й то не ўстаялі.

— Не палохай, — спакойна прамовіла Даша, але ў голасе ейным было столькі цьвёрдасьці й сілы, што Мокрут міжвольна ўздрыгнуў, наўкос глянуў на дзяўчыну. — Бацька мой ня мала прыняў пакут ад цябе, хоць ён ня ў чым ня быў вінаваты. Ды хіба адзін бацька? Я ня ўсё ведала раней. Але май на ўвазе, што ні зь Ільлі Савіча, ні зь мяне табе ня ўдасца так пазьдзеквацца, як ты зьдзекваўся зь іншых. З намі ўсе, усе людзі! А ў цябе вось толькі... — яна паказала на фінагента, які ехаў ззаду. — Ды і то, яшчэ невядома. Я думаю, што й ён калі-небудзь зразумее, што ты за чалавек.

— Якія ў вас людзі? — паспрабаваў засьмяяцца Мокрут, ды выйшла горкая міна замест усьмешкі. — Печка? Андрэіха? Зноў кажу! — у горле ў яго раптам зьявіліся злавесныя хрыпы, — пляваць я хачу на ўсё гэта! Ідзеш да дзеверка свайго вывуджваць на мяне розную брахню? Няма ўжо твайго дзеверка. Разумееш? Няма Васі Печкі! Аддаў сяньня ноччу канцы! Можаш напісаць у часьць свайму нарэчанаму, што праз цябе загінуў яго родны брат. Ну, а я, мабыць, таксама сюды-туды напішу. Да пабачаньня, суседухна! Ня мінай майго двара!

Ён крута павярнуўся й пайшоў насустрач фурманцы.

«Вось чаму ён так разыйшоўся, — апякла думка дзяўчыне ўсё нутро. Даша спынілася, нібы аслупянела. — Няўжо гэта праўда? — Яна нібы міжвольна павярнулася, паглядзела ўсьлед Мокруту. Шырокія, сутулыя плечы, абцягнутыя хромам, бязладна гойдаліся, у хроме пабліскваў зімні прамень сонца. — Тут Мокрут ня схлусіў, вядома, — працягвала разважаць дзяўчына сама із сабою. — Такую праўду, якая можа зьнішчыць чалавека, паважае й ён. Тут ён ня схлусіў. Што-ж цяпер рабіць? Што цяпер скажа цётка Аксіньня, што падумае Валодзя, калі яму напішуць...»

У дзяўчыны моцна зашчымела пад сэрцам, у галаве зьявіўся нейкі вобмарачны, балючы шум. Спачатку ёй падумалася, што трэба зараз-жа вярнуцца дадому, пайсьці да Ільлі Савіча й выказаць, выплакаць яму ўсё. Потым, яшчэ крыху пастаяўшы, апамятаўшыся, яна ўсё-ж пайшла ў бальніцу, але йшла туды вельмі доўга.

# Люрдзкія ўрачыстасцы

(Заканчэньне з папярэдняга нумару)

Сёлетні Марыйны Кангрэс у Люрдзе, падобна як і папярэднія, быў арганізаваны Міжнароднай Марыйнай Акадэміяй, старшынём якое зьяўляецца дастойны а. Кароль Баліч, вучоны францішканін з Рыму, паводля нацыянальнасьці — Харват.

У запраўднасьці ў тым самым часе (адзін пасьля другога) адбываліся два кангрэсы: III міжнародны **марыялягічны** й X міжнародны **марыйны.**

Марыялягічны каргрэс — гэта зьезд вучоных тэалёгаў, ведамых знатакоў марыялягічных праблемаў. На ім былі чытаныя даклады, прыкладам, на такія тэмы: «Марыя й еднасьць царквы»; «Марыя й апасталят у Царкве», «Аб'яўленьні Маці Божай і іхняе значаньне ў Царкве» й інш.

Марыялягічны кангрэс трываў ад 10 да 14 верасьня г. г. Мы, Беларусы, актыўнага ўдзелу ў ім ня прыймалі.

Марыйны кангрэс быў так зарганізаваны, што ў дакладах, у публічных малітвах і маніфэстацыях маглі браць удзел ня толькі вучоныя тэалёгі й духавенства, але таксама й масы вернікаў.

Працы марыйнага кангрэсу праводзіліся ў наступных сэкцыях: амэрыканскай, бэльгійскай (у францускай і флямандзкай мовах), канадыйскай, францускай, нямецкай, ірляндзкай, гішпанскай, італьянскай, японскай, партугальскай, Сярэдняга Ўсходу й Сьвятой зямлі, турэцкай і ў сэкцыі названай «Бацька сям'і». Усе гэтыя сэкцыі былі зарганізаваныя народамі, дзе няма рэлігійнага прасьледу. Усіх іх было 14.

Апрача ўспомненых сэкцыяў было яшчэ 15 іншых, названых сэкцыямі «Церпячай Царквы». Вось яны: альбанская, беларуская, карэйская, харвацкая, вугорская, латыская, летувіская, польская, румынская, расейская, кітайская, славацкая, славэнская, украінская, вэтнамская. Зусім ня было асобных сэкцыяў эстонскай, чэскай і баўгарскай, хаця незарганізаваным спосабам нямала Чэхаў і Баўгараў прыбыло ў Люрд.

Кажная сэкцыя мела сваіх старшыняў, вызначаныя свае залі, сьпісы дакладаў і прозьвішчы рэфэрэнтаў.

Старшынём беларускай сэкцыі быў Я. Э. біскуп В. Слосканс, Апостольскі візытатар Беларусаў на Эўропу, сакратаром — айцец Леў Гарошка.

15 верасьня сабраліся ўсе нашы ўдзельнікі кангрэсу, разам 18 чалавек, на чале зь Я. Э. біскупам Слоскансам. Тады былі прачытаныя тры даклады: а. Ч. Сіповічам на тэму «Др. Францішак Скарына — вялікі паклоньнік Найсьв. Дзевы Марыі», а. Л. Гарошкам на тэму «Культ Божай Маці ў Беларусі» й а. П. Татарыновічам аб малітве «Анел Божы зьвясьціў Дзеве Марыі ...»

Я. Э. біскуп Слосканс закрыў зборку, заахвочваючы ўсіх прысутных і адсутных Беларусаў да большай чэсьці да Найсьв. Дзевы Марыі й да глыбейшага пазнаньня сваёй хрысьціянскай гістарычнай мінуўшчыны.

Таго-ж самага дня пад вечар мы зьведалі калісьці ведамы зь бядоты домік, дзе жыла сям'я сьв. Бэрнардэты, а сяньня слаўны, як месца паломніцтваў і мольбаў.

Я. Э. біскуп Слосканс меў адмысловы даклад у базыліцы сьв. Ружанца ў прысутнасьці папскага Легата, шматлікіх біскупаў, сьвятароў і вернікаў для ўсяго кангрэсу на тэму: «Марыя й церпячая Царква». Біскуп Слосканс на кангрэсе рэпрэзэнтаваў Беларусь ня толькі з тытулу Апостальскага візытатара для нас, але таксама й з тытулу Апостальскага адміністратара Магілёўскага й Менскага. У сваім дакладзе, які быў надрукаваны, Яго Эксцэленцыя гаварыў таксама й аб кульце Маці Божай у Беларусі.

Мы, Беларусы, апрача праслуханьня сваіх дакладаў, мелі змогу прысутнічаць на дакладах ці то іншых сэкцыяў ці агульных для ўсяго кангрэсу. Нажаль, мы мелі мала часу, а таму й абмежаваліся толькі да найважнейшых. Да такіх трэба залічыць даклад папскага Легата Я. Эм. кардынала Тысэрана й біскупа Люрдзкага Я. Э. Тэа, якія былі прачытаныя ў той-жа базыліцы сьв. Ружанца.

Мы мелі дзьве свае Багаслужбы: адну ў лацінскім абрадзе адправіў а. П. Татарыновіч, а другую. усходняга абраду — а. Л. Гарошка, а. Ул. Салавей і ніжэй падпісаны. На лацінскай імшы сьпявалі рэлігійныя марыйныя й іншыя песьні. У канцы імшы чульліва прамовіў да ўсіх а. П. Татарыновіч.

Беларуская група прыймала актыўны ўдзел у нязвычайна ўрачыстых міжнародных набажэнствах і працэсіях.

Нельга тут ня ўспомніць начное працэсіі ізь сьвечкамі ў руках, калі з тысячы тысяч грудзей шугала простая люрдзкая песьня «Ave, ave, ave Maria ...» Нязвычайна прыгожай была таксама працэсія із статуяй Непавінна Пачатай па горадзе Люрд у вапошні дзень кангрэсу. Народы з усіх краінаў сьвету й розныя арганізацыі йшлі із сваімі сьцягамі. Беларускую групу папярэджвалі два прыгожыя сьцягі: нацыянальны бел-чырвона-белы, несены сп. Аўгенем Данільчыкам і штандар зь іконай Божай Маці Жыровіцкай, несены сп-няй Верай Дышлюк, якой беларуская нацыянальная вопратка прыцягвала вока шматлікіх гледачоў. Нажаль, няўдалы напіс «Albo-Ruthenie», які папярэджваў нашу групу, усім тым, хто намі цікавіўся, заместа дапамагаць, яшчэ зацямняў справу пытаньня нашае нацыянальнае прыналежнасьці. На маю думку трэба было трымацца або вылучна назову ў нацыянальнай мове «Беларусь», або прынятага ў Францыі тэрміну «Biélorussie».

Былі яшчэ й іншыя маленькія недахопы, як, прыкладам, нявыгоды жыцьця ў алюміньявых палатках, але ўсё гэта гінула на фоне той хрысьціянскай унівэрсальнай велічы прошчы й кангрэсу, якога й мы, Беларусы, былі хоць і невялікай часткай, але як роўныя з роўнымі.

Дарэчы заўважыць, што кангрэсы гэтакага маштабу, як сёлета, бываюць рэдка. На гэтым кангрэсе праз свайго Легата, добра Беларусам ведамага кардынала Тысэрана, быццам Папа Пій XII сам на ім прысутнічаў. Зрэштай на яго заканчэньне да ўсіх прамовіў па радыё і ўсіх нас там багаславіў. Кангрэс у Люрдзе быў адным з апошніх вялікіх актаў у чэсьць Марыі вялікага марыйнага Папы.

У Люрдзе застаўся на заўсёды прыгожы штандар, ахвяраваны ў люрдзкую базыліку ад імя ўсіх прасьледаваных цэркваў з вышытымі залатымі літарамі назовамі ўсіх краінаў, з аднаго боку ў лацінскай мове, а з другога — у нацыянальнай. Гэта першая памятка, якую заўважыць кажны Беларус-паломнік, які калі-колечы трапіць у слаўны пірэнэйскі гарадок Марыі.

**а. Ч. Сіповіч**

# Яшчэ аб Хрушчоўскай рэформе сярэдніх школаў

Як і трэба было спадзявацца, на запіску Хрушчова «Аб умацаваньні сувязі школы з жыцьцём і аб далейшым разьвіцьці сыстэмы народнай адукацыі краіны» савецкая грамадзтва адгукнулася «з энтузіязмам і вельмі прыхільна». У БССР таксама пасыпаліся «адабрэньні» ў цэнтральную рэспубліканскую прэсу. Праўда, гэтае заданьне бяруць на сябе пакульшто талькі адны настаўнікі й дырэктары школаў ды лідары ЦК КП Беларусі начале зь міністрам асьветы БССР І. Ільюшынам, прапануючы розныя рэформы адукацыйнай сыстэмы.

Гэтыя прапановы далёка не адыходзяць ад прапановаў самога Хрушчова й зводзяцца, як ведама, да апрабацыі ўвядзеньня тыпу сярэдніх школаў з 7—8 гадамі агульнаадукацыйнага ўзгадаваньня з прывіцьцём пэўных працоўных навыкаў і 3—4 гадамі фаховага ўзгадаваньня — набыцьцё палітэхнічных і прафэсыянальных ведаў з удзелам у вытворчасьці. У гэтых агульных рамках прапануецца яшчэ скараціць праграму, асабліва за кошт гуманітарных ведаў, васьмігадовага агульнаадукацыйнага ўзгадаваньня, прымаць дзяцей у першую клясу ад 8 гадовага ўзросту, удзяляць больш увагі прывіцьцю працоўных навыкаў, каб юнак ці юначка, закончыўшы ў 16 гадоў агульнаадукацыйную школу, мог свабодна прыступіць да працы ў калгасах ці на прадпрыемствах.

Апрача гэтага прапануецца яшчэ пакінуць у кажным раёне па 1—2 агульнаадукацыйных школаў «дзесяцігодак», якія маглі-б узгадоўваць беспасярэдніх кандыдатаў на ўнівэрсытэты. У падобныя школы мусіць трапляць толькі адбор — вучні з рэкамэндацыямі дырэкцыяў і камсамолу. Калі-ж не, дык пашырыць сетку агульнаадукацыйных сярэдніх вячэрніх школаў-дзесяцігодак, каб гэтым самым даць магчымасьць моладзі падрыхтавацъ сябе да паступленьня ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. У сувязі з гэтым прапануецца таксама распачаць ужо пераадукаваньне настаўнікаў ды прыступіць да абсталяваньня школаў патрэбнымі прыладамі й школьнымі заводамі.

Так, «ня трэба забываць, — выказваецца настаўнік Арэпіцкай сярэдняй школы, — што савецкая грамадзтва ідзе да камунізму, калі чалавек пачне працаваць па 5—4 гадзіны, выкарыстоўваючы рэшту часу на паглыбленьне сваіх агульнаадукацыйных ведаў», а цяпержа, калі яно стаіць на шляху да гэтага камунізму, савецкай моладзі трэба прывіваць любасьць да працы, выхоўваць яе моцнай фізычна й духам.

Гэтыя назначаныя вехі будучай рэформы сярэдняадукацыйнай школьнай сыстэмы, якія зрываюць савецкі лёзунг агульнага і абавязковага сярэдняга агульнаадукацыйнага ўзгадаваньня савецкага грамадзтва, узьніклі з праблемай наплыву масы кандыдатаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы й наяўнасьці дастатковай колькасьці культурнай і тэхнічнай інтэлігэнцыі. Спробы запабегчы гэтаму былі робленыя, як ведама, і раней праз увядзеньне закону, паводля якога асноўная маса выпускнікоў дзесяцігодак не магла трапіць на вышэйшыя студыі, не адпрацаваўшы свайго мінімума — 2 гады — на заводах ці ў калгасах, і не атрымаўшы патрэбнага «атэстату» ад дырэктараў заводаў ці старшыняў калгасаў, а таксама ад партыйных і камсамольскіх арганізацыяў. Аднак гэты закон спрычыняў шмат клопатаў партыі. Скончыўшы дзесяцігодку й не паступіўшы на ўнівэрсытэт, моладзь не ахвотна йшла працаваць ці проста ўхілялася ад працы, выказваючы гэтым самым наглядны пратэст супраць рэжыму. Робячы з гэтага адпаведны выснаў, партыя на чале з Хрушчовам пры-

(Заканчэньне на 8-ай бач.)

# Да пытаньня фэдэрацыяў

(Заканчэньне з 6-ай бач.)

больш патрэбны,чымся Эгіпту), як змусіць Савецкі Саюз пакінуць тэрыторыю паняволеных ім народаў.

Сп. Дубовік гаворыць аб эканамічных выгадах вялікіх абшараў задзіночаных у ваднэй дзяржаве. Аднак хопіць хацябы сабе павярхоўна пазнаёміцца з узроўнем жыцьця ў малых і бедных у натуральныя рэсурсы дзяржаваў, прыкладам, такіх як Данія, Галяндыя, Швайцарыя, Люксэмбург, каб сьцьвердзіць, што там людзі жывуць лепш, чымся ў суседніх Італіі, Нямеччыне, Францыі, і, зразумела, ня можа быць параўнаньня з такімі дзяржавамі як Савецкі Саюз ці Кітай, ня гледзячы на вялізарныя натуральныя багацьці гэтых апошніх.

На маю думку справа ў тым, што, папершае, вялікія дзяржавы вельмі дорага плацяць за прыемнасьць быць вялікімі, за свае сусьветныя амбіцыі ды за бюракратыю, якая зьяўляецца непазьбежным зьявішчам вялікіх дзяржаў; падругое, вялікая дзяржава — гэта за скамплікаваны твор, каб у ім усё абхапіць ды усебакова згарманізаваць.

Малыя-ж дзяржавы не патрабуюць утрымоўваць вялікіх арміяў, яны маюць адміністрацыю больш простую й больш элястычную, больш падатную на хуткія й спраўныя мерапрыемствы ў выпадках патрэбы ды наагул такой дзяржавай лягчэй кіраваць. Прыкладам, данскі міністар земляробства ведае амаль напамяць усе фэрмы ў сваёй краіне, ведае іх патрэбы ды можа хутка й спраўна задаволіць іх дамаганьні. А ў Савецкім Саюзе? Пакуль пастановы ўраду ці дамаганьні паправы пройдуць бюракратычны шлях з гары ў ніз ці наадварот, дык і перастануць быць актуальнымі.

Далей сп. Дубовік падчырквае, што існуюць ідэялістыя, якія аб'еднаныя ў Сусьветнай Арганізацыі Фэдэралістых. Хай яны сабе аб'ядноўваюцца; іх ня так ужо шмат дый ім ня цяжка аб'яднацца, калі ім даюць дапамогу тыя, якім гэтакія фэдэралістыя памагаюць хвальшаваць рэчаіснасьць. Сьвету патрэбны не ідэялістыя, а рэалістыя, якія могуць разумець душу й імкненьні двух з паловай мільярдаў людзей, што засяляюць сяньня нашую плянэту й якія часта ў голадзе й холадзе чакаюць ня прыгожых формулаў, а хлеба й тунікі, каб прыкрыць зьмерзлае цела. Ідэялістыя аднаго боку ўжо аддалі ў палон сусьветных сатрапаў восемсот мільёнаў насельніцтва. Гэта ідэялістыя пракладаюць шлях камунізму, гэта яны абескуражваюць нацыі вольнага сьвету ў змаганьні супраць «ідэялістых», што маюць сваё гняздо ў Маскве.

Калі ўжо ставіць пытаньне канкрэтна, дык зь кім-жа мы можам фэдэравацца? Можа з Масквою, зразумела, ужо ня чырвонага колеру? Калі гэтак, дык мо спадары фэдэралістыя сказалі-б нам хто гэта падзяліў нашую фэдэрацыю, якая звалася Рэчыпаспалітай? Гэта-ж ня Сталін і ня Ленін, а цар-бацюшка. А сацыялісты Керанскі што рабіў, каб спыніць разьвіцьцё незалежніцкага руху? А цяперашняя расейская прэса на эміграцыі? Трэба быць зусім бяз глузду, каб бачыць у гэтых партнэраў фэдэрацыі добрую волю ды праймацца іхнімі прапазыцыямі аб фэдэрацыі.

З Палякамі? Праблема зусім падобная ды гістарычнае дасьветчаньне даволі багатае. Фэдэрацыя можа быць атракцыяй толькі для таго, хто ня моцны ў беларускай гісторыі.

Украінцы? Сяньня ўжо Палесьсе, Падляшша — гэта Ўкраіна; Скарына, Будны, Цяпінскі — гэта выдатныя Украінцы, а мова Вялікага Княства Літоўскага — гэта ўкраінская мова. А што будзе заўтра?

Застаецца Прыбалтыка. Так, із слабейшым і фэдэравацца выгадна, але ці яны на гэта пойдуць?

Найлепшы выхад, на маю думку, гэта нацыянальныя дзяржавы на іх этнаграфічных землях, аб'яднаныя ў ваднай сусьветнай арганізацыі падобнай да сяньняшняй Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, толькі, зразумела, больш эфэктоўнай і здольнай да дзеяньня.

А наагул нельга забывацца, што мы жывем у пару дыфэрэнцыяцыі нацыяў, а ня інтэграцыі.

**Уладзімер Шыманец**

## XIV

Чырвонамакаўскія й дабрасельскія могілкі былі значна бліжэй ад Дабрасельцаў, як ад Чырвоных макаў. Часам бывала навет так, што дабрасельцы проста заносілі сваіх нябожчыкаў на могілкі, а чырвонамакаўцы вазілі, бо заносіць хоць і ў пяць зьмен ім было не пад сілу. Калі Даша з Андрэіхай прыйшлі на гэтыя могілкі, тут яшчэ нікога ня было, толькі пасярэдзіне могілак, паміж дзьвёх бярозак, жаўцеў невялікі копчык сьвежага чвыру. Яны пайшлі далей з такім намерам, што калі ня сустрэнуць працэсію, то пастаяць каля Печкавай хаты, пакуль вынясуць нябожчыка.

Але не дайшлі яны яшчэ навет да Чырвоных макаў, як убачылі на дарозе грузавую машыну, якая рухалася вельмі памалу: чутно было, як нязвыклы да малых абаротаў матор раз-па-разу страляў і пыхкаў. На бартох машыны сядзела некалькі жанчын, а за машынай ішло многа чырвонамакаўцаў і сёй-той з дабрасельцаў. Якраз блізка ўжо былі гэтыя самыя бяскрылыя млыны. Даша з Андрэіхай узыйшлі на сьцежку, пратаптаную да млыноў, і сталі чакаць. Машына, як на тое, заглухла каля млыноў. Шофэр вылез з кабіны з завадной ручкай, вінавата глянуў на тых заплаканых жанчын, што сядзелі на бартох, і пачаў раскручваць матор. У гэты момант Даша зусім-зусім нечакана для сябе ўгледзела Валодзю. Яна ўхапілася за Андрэішын рукаў і ледзь не павісла ў цёткі на плячы. Твар ейны раптам зьбялеў, рукі пачалі нэрвова калаціцца. Яна ня ведала, што Валодзя прыехаў на пахаваньне.

— Супакойся, Дашачка, — зразумеўшы ўсё, зашаптала Андрэіха й сьціснула локцем ейныя рукі. - Супакойся, усё будзе добра. Я сама зь ім пагавару.

Валодзя стаяў каля апушчанага ўніз задняга борту, бяз шапкі, у шынэлі з курсанцкімі пагонамі, туга падцягнуты, стройны. З твару ён быў вельмі падобны на брата, гэтакі-ж сьвятлявы, гладкашчокі, толькі ўсе рысы твару былі больш выразнымі й выяўлялі большую сталасьць і ўдумлівасьць. Стаяў ён зусім нярухома, не пераміnаўся з нагі на нагу, як іншыя, ня туліў у каўнер вушы, а лётніцкую шапку трымаў на левай руцэ ля поясу. Даша і ўбачыла перш за ўсё яго вуха, маленькае, чырвонае ад марозу, прыкрытае пасмай сьветлых валасоў. Некалі яно было зусім блізка каля ейнага твару, ейных вачэй ... А цяпер яму, напэўна, холадна, бо вецер якраз з гэтага боку, ды і мароз узяўся не малы ...

Валодзя трошкі павярнуў галаву да млыноў. Даша заўважыла сьлёзы ў яго на вачох і нейкі неразгаданы смутак у паглядзе. Каб яшчэ трошкі, то ён убачыў-бы яе. Сэрца страпянулася ад гэтага, чамусьці страшна было сустрэцца цяпер вачамі. Хто ведае, які цяпер быў-бы Валодзяў позірк, што засьвяцілася-б у ягоных вачох? ..

Машына запырхала, затрашчала, і шофэр бягом пусьціўся ў кабіну. Дашы вельмі доўга цягнулася гэтая хвіліна стаянкі. Няёмка было тырчэць убаку, няёмка было й падыходзіць, бо сьцежка выводзіла да пярэдніх людзей. Калі машына кранулася й людзі пайшлі, Даша ўсьлед за Андрэіхай выйшла на дарогу, і потым яны йшлі ўдваіх самымі заднімі. Хада была вельмі няроўнай, таму што шофэр ніяк ня мог дапасавацца вясьці машыну на аднолькавай хуткасьці. Відаць, яму ўпяршыню давялося вязьці чалавека ў вапошні шлях.

Перад Дашай ішоў і час-ад-часу ледзь не натыкаўся на людзкія сьпіны, калі машына прыпынялася, Іван Дабрасельскі. Па ягонай тонкай пачырванелай шыі Даша заўважыла, што ён, мабыць, плача.

— Іван! — ціха пазвала яна.

Хлопец азірнуўся, пасьпешна выцер пачырванелыя вочы й пачакаў, каб ісьці далей поруч. Кроках у двух сьпераду йшлі бяз шапак некаторыя з тых хлопцаў, што ня так даўно ганяліся за Васілём. Сярод іх крочыў, апусьціўшы галаву, і Цімоша.

Калі працэсія ўжо набліжалася да могілак, насустрач ёй праехала такая-ж паўтаратонка, толькі зь вялікай дашчатай скрыняй із шчылінамі па бакох. У вадной такой шчыліне тырчаў верхні абадок сьвінога лыча. У кабіне машыны сядзеў Шулаў. Ён зьняў шапку, параўняўшыся з труной, і прыняў набожна-жальлівы выгляд.

«Павёз у горад кормніка, — падумала Даша й коратка пераглянулася зь цёткай Настуляю. — Нябось і двух тыдняў не пратрымаў на сваіх харчох пасьля таго, як выгналі вяпрука з фэрмы».

Мокрут, які хмура крочыў сьпераду ўсіх, высунуў з настаўленага каўняра падбародак і зь нянавісьцяй і відавочнай зайздрасьцяй пагледзеў Шулаву ўсьлед. Азірнуўся ў гэты момант і Ільля Савіч. Яго, мабыць, зьдзівіў нязвычайны кантраст дзьвёх стрэчных машын. Агляннуўся і ўбачыў Дашу з Андрэіхай, хоць Андрэіху ён і мала ведаў, але ветліва пакланіўся абедзьвюм. Сівая галава яго вылучалася потым сярод усіх аж да таго часу, пакуль не пахавалі Васіля й дырэктар не надзеў сваю рыжую стаўбунаватую кубанку.

Разыходзіліся з могілах хто ў які бок: хто ў Чырвоныя макі, хто ў Дабрасельцы. Ужо каля самай дарогі Ільля Савіч параўняўся з Дашай. Андрэіхі блізка ня было, яна засталася каля магілы і ўсё яшчэ наглядала, як Валодзя маўкліва, але зь вялікай горычай апошні раз разьвітваўся із сваім братам.

У гэты час, калі Андрэіха стаяла адна, грознаю хмараю пасунуўся проста на яе Лявон Мокрут. Ён наставіў на жанчыну такі страшны й зьнішчальны погляд, што ёй трэба было ня йначай як на калені ўпасьці перад ім. Аднак цётка Настуля сустрэла ягоныя вочы спакойна, цьвёрда й навет не паварушылася, каб уступіць старшыні дарогу. Мокрут спыніўся каля Андрэіхі, зьмерыў яе з ног да галавы і, узяўшы крок улева, пайшоў далей.

— Заўтра ў нас партыйны сход, — сказаў Дашы Ільля Савіч, няпрыязна глянуўшы на Мокрута. — Будзем разьбірацца ў некаторых справах. Вось і наконт гэтага таварыша пагаворым. Прыходзьце.

— Прыйду, Ільля Савіч, — задаволена адказала Даша. — Я навет учора зьбіралася зайсьці да вас, ды не пасьпела, бо тэрмінова пазвалі ў раён.

— Чаго? — зьдзівіўся Ільля Савіч, і твар стаў да жалю заклапочаным.

— Мокрут падаў, што празь мяне загінуў Печка.

Яны прайшліся крыху ў напрамку Чырвоных макаў.

— Вось на што б'е, прайдзісьвет! — з абурэньнем і хваляваньнем у голасе прамовіў Ільля Савіч. Затым, падумаўшы, дадаў: — Вы, значыць, прыходзьце заўтра пад вечар на сход, а я з самага ранку зьежджу да сакратара райкому. Не хвалюйцеся вельмі, ня перажывайце. Потым вось што: да справаздачнай сэсіі трэба добра падрыхтавацца, пагаварыць зь людзьмі. Ніхто не павінен баяцца сказаць праўду. Із суседкай сваёй яшчэ пагаварыце. Добра?

— Добра, Ільля Савіч, — згадзілася Даша, і на гэтым яны разьвіталіся.

(Далей будзе)

